Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 10 (4810) 13 сакавіка 2015 г.




Партрэт акцёра, сакрэт паэта 6

Зорка з Азербайджана 8

Вільня — беларуская? 9

Фарбы сакавіка 16







## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Васіля Раінчыка з 65-годдзем. «Сваёй шматгадовай творчай дзейнасцю вы заслужылі любоў і павагу прыхільнікаў як у Беларусі, так і далёка за яе межамі. Ваш прафесіяналізм як музыканта і кампазітара, шчодрая ад прыроды душа і артыстызм, унутраная культура, здольнасць данесці аўтарскую думку да шырокага гледача робяць вашы песні любімымі і вельмі папулярнымі ў народзе», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народную артыстку СССР Тамару Ніжнікаву з юбілеем. «У Беларусі вас ведаюць як выдатную спявачку яркага таленту і артыстычнай індывідуальнасці. Вартая ўвагі ваша нястомная работа па папулярызацыі беларускага вакальнага мастацтва на роднай зямлі і за яе межамі. Вам апладзіравалі слухачы Швецыі, Аўстрыі, Манголіі, Канады і многіх іншых краін свету», — адзначаецца ў віншаванні.

✔ Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка сустрэўся ў Парыжы з Прэзідэнтам Расійскай акадэміі мастацтваў, народным мастаком СССР Зурабам Цэрэтэлі. Прайшло абмеркаванне магчымасцей удзелу нашай краіны ў праектах Расійскай акадэміі мастацтваў, якія праводзяцца пад эгідай ЮНЕСКА, дасягнуты дамоўленасці аб арганізацыі выставак сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі ў Маскве.

✔ Збор твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах прэзентавалі на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Паводле прафесара, доктара філалагічных навук, загадчыцы кафедры беларускай літаратуры і культуры філфака БДУ Таццяны Шамякінай, гэта найбольш поўны з усіх існуючых і першы навукова каменціраваны збор, які змяшчае ўсе асноўныя творы Івана Шамякіна.

✔ Заяўкі на ХІ Нацыянальны тэлевізійны конкурс «Тэлевяршыня» прымаюцца да 31 сакавіка. Для ўдзелу запрашаюцца тэлепраграмы любой прапягласці вытворчасці рэспубліканскіх і рэгіянальных тэлевяшчальных арганізацый, іншых вытворцаў розных форм уласнасці рэспублікі, якія выйшлі ў эфір у 2014 годзе. Конкурс праводзіцца па 25 намінацыях. Гран-пры «Тэлевізійны праект года» будзе прысуджаны маштабнаму сацыяльна значнаму праекту, які атрымаў шырокі грамадскі рэзананс у краіне.

✔ Да 70-годдзя Вялікай Перамогі рэжысёр Сяргей Кулікоўскі паставіў спектакль «Трыбунал» па аднайменнай п'есе Андрэя Макаёнка. Выбар твора невыпадковы: спектакль раскрывае тыя нацыянальныя рысы, без якіх перамогі быць не магло.

✔ 16 сакавіка ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры пройдзе дзень адчыненых дзвярэй Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Праграма прадугледжвае сустрэчу рэктара ўстановы Юрыя Бондара з прадстаўнікамі СМІ, падчас якой будуць вызначаны асноўныя кірункі дзейнасці БДУКіМ, акрэслены адметнасці ўступнай кампаніі і значныя культурныя праекты.




*Ломберны столік у экспазіцыі выстаўкі «На старасвецкі лад» у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (са збораў Тракайскага гістарычнага музея, Літоўская Рэспубліка).*

# Dandy not dead

**Канец XVIII стагоддзя. Празмерная раскоша, недарэчная і безгустоўная, саступае месца вытанчанасці і «прыкметнай непрыкметнасці». Заможныя буржуа, мяшчане ў шляхецтве, саступаюць месца джэнтльменам, якія выдаткоўваюць каласальныя сродкі на гарнітуры і аксесуары — сапраўдныя творы мастацтва. Так пачынаецца эпоха дэндзі.**

Скончыцца яна на пачатку ХХ стагоддзя, але і сёння можна вярнуцца ў часы лорда Байрана, Оскара Уайльда, урэшце, у часы Янкі Купалы, у доме якога і адкрылася выстаўка «На старасвецкі лад».

— Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы мае шмат замежных партнёраў. Адным з іх з'яўляецца Тракайскі гістарычны музей, — распавядае Марыя Барткова, загадчык аддзела навукова-экспазіцыйнай і выставачнай работы. — Выстаўка, якую мы прымаем у сябе цяпер, прысвечаная эпосе дэндзі, а ў назву атрымала купалаўскі радок. Тут можна ўбачыць усё, што мусіў мець пры сабе дэндзі для выхаду ў свет, прычым існавала істотная розніца між паходам у клуб, у тэатр, на спатканне ці ў госці. Рэчы, якія да нас прывезлі — а гэта каля трохсот аўтэнтычных прадметаў, — з розных краін Еўропы, з Кітая, Злучаных Штатаў Амерыкі. Афармленнем выстаўкі займаўся мастак Аляксандр Давідовіч.

Экспазіцыю выстаўкі ўмоўна можна падзяліць на некалькі ансамблевых зон: гэта ігравы кабінет у клубе, штодзённы строй дэндзі і неабходныя аксесуары, прыналежнасці для ранішняга туалета і працы (поўны пісьмовы набор з нязменным паркерам); вялікую частку выстаўкі складае калекцыя самых розных прылад для палення тытуню. Беларускае дапаўненне да тракайскай экспазіцыі — асабістыя рэчы Янкі Купалы, якія вылучаюцца заўсёднай увагай да свайго знешняга выгляду і любоў прыгожыя рэчы. Напрыклад, партсігар, падараваны паэту супрацоўнікамі газеты «Праўда Віленська» ў маі 1941 года, калі Купала ў складзе беларускай дэлегацыі ездзіў у Вільню на перамовы — дамаўляцца пра перадачу рэчаў з музея Івана Луцкевіча. Тут жа — пісьмовы прыбор, падарунак сяброў Інстытута беларускай культуры на дваццатыя ўгодкі творчасці. Нельга абмінуць увагай і кіёк з булавешкай у выглядзе конскай галавы.

— Падчас Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў 1926 годзе ў Мінск прыязджаў Ян Райніс, які, як і Купала, быў чалавек старога ладу, з манерамі джэнтльмена, — кажа спадарыня Марыя. — І паэты замовілі сабе такія вось кіёчкі. У мінулым годзе кіёчак Райніса «прыязджаў» у Купалаўскі музей з Латвіі.

Па рэчах, размешчаных у экспазіцыі, можна скласці ўяўленне пра лад жыцця дэндзі. Вось ломберны столік з шуфлядай на 15 аддзяленняў, са званочкам для служак і шматфункцыянальнай попельніцай. Пра ўсеагульную папулярнасць палення, якое ператварылася ў частку культуры, сведчыць калекцыя люлек і мундштукоў самых розных памераў і матэрыялаў — з каштоўных парод драўніны і бурштыну, з косткі. Экспанаты адрознівацца вытанчанасцю дэкору.

Чытайце на стар. 2

*Конкурсы*

# Да новых імёнаў

**У межах Года літаратуры Грамадская палата Расійскай Федэрацыі сумесна з Міжнародным грамадскім фондам «Расійскі фонд міру» пры інфармацыйнай падтрымцы Міжнароднага інфармацыйнага агенцтва «Россия сегодня» праводзіць Міжнародны літаратурны конкурс «Русская речь» для маладых празаікаў і паэтаў з краін СНД і бліжняга замежжа, якія пішуць на рускай мове.**

Мэта конкурсу — захаванне і распаўсюджанне рускай мовы за мяжой; адкрыццё новых імёнаў у літаратуры краін СНД і бліжняга замежжа, прасоўванне іх твораў да рускамоўных чытачоў; кансалідацыя маладых літаратараў краін СНД і бліжняга замежжа, стварэнне ўмоў для іх творчых стасункаў і прафесійнага росту.

Конкурс ладзіцца сярод аўтараў ва ўзросце да 35 гадоў. Лаўрэаты будуць адзначаны дыпломамі і грашовымі прэміямі: за 1-е месца — 100 тысяч, за 2-е — 80 тысяч, за 3-е — 60 тысяч расійскіх рублёў. Да ўдзелу прымаюцца як апублікаваныя, так і неапублікаваныя творы, напісаныя па-руску (раманы, аповесці, апавяданні, вершы), у фармаце дакумента Microsoft Office Word або па пошце. У лісце кожны аўтар указвае сваё імя, прозвішча (па жаданні — і псеўданім), узрост, кантактныя тэлефоны, паштовы і электронны адрасы, прадстаўляе кароткую творчую біяграфію і спіс публікацый. Дасланыя на конкурс творы не вяртаюцца. Тэрмін прыёму работ — з 1 лютага па 1 кастрычніка 2015 года.

У складзе журы — сакратар Грамадскай палаты Расійскай Федэрацыі Аляксандр Брачалаў; паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі, член Грамадскай палаты Расійскай Федэрацыі Андрэй Дзяменцьеў; генеральны дырэктар Міжнароднага інфармацыйнага агенцтва «Россия сегодня» Дзмітрый Кісялёў; пісьменнік, акадэмік Акадэміі Расійскай славеснасці, першы намеснік старшыні Праўлення Міжнароднага грамадскага фонду «Расійскі фонд міру» Анатоль Салуцкі; старшыня Камітэта Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі па справах СНД, еўразійскай інтэграцыі і сувязях з суайчыннікамі за мяжой Леанід Слуцкі; старшыня Камісіі Грамадскай палаты Расійскай Федэрацыі па развіцці грамадскай дыпламатыі і падтрымцы суайчыннікаў за мяжой Алена Суторміна.

Пераможцы конкурсу будуць запрошаны на ўрачыстую цырымонію ўзнагароджання, якая адбудзецца ў кастрычніку 2015 года ў Дзяржаўным музеі імя А. С. Пушкіна (Масква).

Творы разам з кантактнай інфармацыяй накіроўвайце ў Грамадскую палату Расійскай Федэрацыі па электроннай пошце rusrech@oprf.ru ці па адрасе: 125993, г. Масква, ГСП-3, Міўская плошча, д. 7, буд. 1.

**Арына КРАЙКО**

# Радкі з-пад агню

**Першы гарадскі конкурс-канцэрт «Маладое мастацтва XXI стагоддзя. У нас, маладых, асколкі той вайны», прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі, адбыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Песні і мастацкія творы пра вайну прагучалі ў выкананні 26 удзельнікаў, сярод якіх былі не толькі студэнты, але і прафесійныя маладыя артысты.**

Арганізавалі мерапрыемства Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў і Мінскі гарадскі клуб творчай інтэлігенцыі ды аматараў мастацтва «Маэстра». Сёлета, у Год моладзі, конкурс стаўся асабліва актуальным. У склад журы на чале з кампазітарам Алегам Елісеенкавым увайшлі актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Марыя Захарэвіч, салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Наталля Руднева і Алег Мельнікаў, кіраўнік клуба «Маэстра» і аўтар праекта Галіна Махаева, галоўны рэжысёр Драматычнага тэатра Беларускай Арміі Ігар Фільчанкаў, адказны сакратар Мінскай гарадской арганізацыі ветэранаў Людміла Пунінская, паэт-песеннік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Кастусь Цыбульскі ды старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Прарэктар БДУІР па вучэбнай і выхаваўчай рабоце Сяргей Дзік зазначыў, што ва ўніверсітэце 42 творчыя калектывы, 2 з іх маюць званне народных. Тут пастаянна ладзяцца разнастайныя конкурсы.

Пераможцы былі вызначаны ў некалькіх намінацыях. У першай — «Вершы ў выкананні драматычнага акцёра» — лепшым стаў Андрэй Мілюхін (Драматычны тэатр Беларускай Арміі). У намінацыі «Песня ў выкананні студэнта» перамагла Наталля Ламака (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў). У намінацыі «Песня ў выкананні спевака-акцёра» прыз атрымаў Раман Лопес (НАВТ оперы і балета Беларусі). У намінацыі «Песня ў выкананні драматычнага акцёра» перамога дасталася Ганне Барташэвіч (Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр). У намінацыі «Мастацкі твор у выкананні студэнта» не было роўных Дзянісу Клімовічу (БДУІР). Першая ў намінацыі «Вершы ўласнага сачынення» — Таццяна Купрыянец (БДУ).

Спецыяльнымі прызамі Мінскай гарадской арганізацыі ветэранаў уганараваны студэнт БДУІР Аляксандр Скам'янаў і Таццяна Купрыянец. Спецыяльны прыз клуба «Маэстра» атрымала студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Анастасія Кананава, а граматы МГА СПБ — Дзяніс Клімовіч, Таццяна Купрыянец, студэнтка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Кацярына Жылякова, акцёр Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра Арцём Хамічонак і студэнт БДУКіМ Аляксей Сокараў.

Зрэшты, ніхто з канкурсантаў не застаўся незаўважаным: усе атрымалі дыпломы ўдзельнікаў конкурсу і прызы ад клуба «Маэстра».

**Яна ЯВІЧ**

# Слова і Подзвіг

**Свой шлях па Міншчыне працягвае акцыя «Слова клікала ў бой», арганізаваная Мінскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Мінскай абласной арганізацыяй Беларускага саюза журналістаў.**

Мэта яе — паказаць, як у гады Вялікай Айчыннай вайны літаратары не толькі ваявалі на франтах і ў партызанскіх атрадах, але і пісалі вершы, апавяданні, публіцыстычныя артыкулы. Услаўляючы подзвіг народны, гэтыя творы натхнялі людзей на барацьбу.

Акцыя стартавала ў Пухавіцкім раёне, напярэдадні Новага года праходзіла на Капыльшчыне, а на мінулым тыдні маршрут вёў па Случчыне. Тут удзельнікі пісьменніцка-журналісцкага дэсанта наведалі Акцябрскую базавую школу імя дзіцячага пісьменніка Васіля Віткі, ураджэнца вёскі Еўлічы Слуцкага раёна. Да земляка ставяцца з вялікай пашанай: нават мясцовая гаспадарка называецца «Вітка-Агра»!

Васіль Вітка, не трапіўшы на фронт па стане здароўя, не толькі пісаў цудоўныя творы, сярод якіх — «Вавёрчына гора», «Буслінае лета», «Казка пра цара Зубра» ды іншыя, што даўно сталі класікай беларускай дзіцячай літаратуры, але і стварыў часопіс «Вясёлка», быў яго першым галоўным рэдактарам, а яшчэ — супрацоўнікам рэдакцый сатырычных часопісаў «Партызанская дубінка» і «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Пра ўнёсак пісьменнікаў-ураджэнцаў Случчыны ў разгром нямецка-фашысцкіх захопнікаў удзельнікі акцыі даведаліся падчас «круглага стала» ў Слуцкай раённай цэнтральнай бібліятэцы. Загадчыца дзіцячага аддзела Галіна Шахновіч падзялілася доследам праведзення Віткаўскіх чытанняў. Старшы навуковы супрацоўнік Слуцкага краязнаўчага музея Валерый Ажэўскі пазнаёміў прысутных з новым набыткам — дакументамі, здымкамі і асабістымі рэчамі пісьменнікаў Васіля Віткі і Міколы Лобана.

Слова ўзялі таксама намеснік галоўнага рэдактара газеты «Слуцкі край» Наталля Селязнёва, галоўны рэдактар газеты «Мінская праўда» Мікалай Літвінаў. Намеснік старшыні Слуцкага райвыканкама Ларыса Дабравольская, падводзячы вынікі «круглага стала» і акцыі «Слова клікала ў бой», звярнула ўвагу на вялікую ролю кнігі ў выхаванні падрастаючага пакалення, асабліва твораў, што ўслаўляюць подзвіг народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**Генадзь ЛЯВОНЕНКА**

# Прынятыя ў СПБ



**Жанна Віктараўна УСЦІНАВА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 18 студзеня 1976 года ў в. Быстрыца Мсціслаўскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Працуе ў Гарбовіцкім вучэбна-педагагічным комплексе дзіцячы сад — сярэдняя агульнаадукацыйная школа» (аграгарадок Гарбовічы Чавускага раёна) намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце. Аўтар паэтычнага зборніка «Лунный чай» (Магілёў, 2013).



**Галіна Анатольеўна БОГДАН (Ліна Багданава)**

*Секцыя прозы*

Нарадзілася 17 сакавіка 1961 года ў г. Бяроза. Скончыла матэматычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Працуе намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце ў СШ № 12 г. Гродна. Асобнымі кнігамі выдадзены яе раманы «Жена для курорта» (Мінск, 2012) і «Любовный многоугольник Оксаны Мелешко» (Мінск, 2012). Суаўтар калектыўных зборнікаў.

# Dandy not dead

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Найбольш прыкметныя — галава маўра, чэрап, сцэнка з двума ваярамі і, безумоўна, галава князя Вітаўта, з якой напраўду нехта паліў: дасюль бачныя сляды попелу. Ёсць і незвычайны мундштук (незвычайнасць яго зразумелая толькі тым, хто быў каля мінскага цырка). У завяршэнне «тытунёвай» тэмы — пачкі цыгарэт, прычым у адным з іх цыгарэты яшчэ захаваліся, а ў працяг тэмы «вольнага часу» — піўныя куфлі. Сярод іх ёсць адзін асаблівы, з выявай святога Фларыяна, які лічыўся абаронцам ад пажараў. У Мінску некалі была вуліца Фларыянская, якая цяпер завецца Рэвалюцыйнай.

Што да знешняга выгляду самога дэндзі, можна пабачыць яго гарнітур (пачатку XX стагоддзя), набор манжэтаў з запінкамі, механічны цыліндр (надзвычай зручная рэч: складваецца так, што можна пакласці яго ў скрынку ці проста насіць пад пахай), калекцыю гадзіннікаў — як кішэнных, з класічнымі ланцужкамі, так і падарожных альбо кабінетных. Яшчэ адзін абавязковы аксесуар дэндзі (ды і ўвогуле джэнтльмена) — візітоўніца. Выраблены віртуозныя майстрамі візітоўніца са слановай косткі захоўвае ў сабе маленькую таямніцу — картку Варвары Андрэеўны Лапінскай, адрасаваную мужу з цёплым пажаданнем заставацца і надалей такім жа мілым, добрым і верным. Падарунак невядомая Варвара Андрэеўна зрабіла мужу да пятай гадавіны «супружеского счастья» ў 1914 годзе.

У параўнанні з іншымі каштоўнымі рэчамі не самай яркай выглядае невялікая драўляная скрынка, якая мае між тым даўнюю гісторыю — выраб датуецца 1737 годам. Уявіце: яна перажыла ўсе падзелы Рэчы Паспалітай, Напалеонаўскія войны, паўстанні на Беларусі і дзве сусветныя вайны.

І гэта далёка не ўсе экспанаты з Тракайскага гістарычнага музея, дырэктар якога Віліюс Павілюнас прыступіў на адкрыцці «старасвецкай» выстаўкі. Таксама ў адкрыцці бралі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Эвалдас Ігнатавічус, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы ў 2006 — 2013 гадах спадар Уладзімір Дражын і галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культур народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь спадарыня Валянціна Макарава.

Выстаўку «На старасвецкі лад» можна наведаць да 15 красавіка.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Больш гумару — менш акадэмізму

«Тыповая сітуацыя: калі звяртаешся да незнаёмага чалавека па-беларуску, ён абавязкова ўдакладняе: ці ты настаўнік? пісьменнік? палітык? Гэты стэрэатып можна разбурыць разам!» — падзяліўся аптымізмам намеснік дэкана філалагічнага факультэта БДУ Павел Навойчык на адкрыцці «круглага стала» «Беларуская мова і грамадства». Мерапрыемства праведзена па ініцыятыве савета маладых вучоных філалагічнага факультэта ў Міжнародны дзень роднай мовы.

Удзельнікамі «круглага стала» сталі людзі, якія займаюцца папулярызацыяй беларускай мовы і культуры. Тацццяна Сівец расказала пра падрыхтоўку праграм «Дыя@блог. Пра літаратуру» і прыгадала кур'ёзныя выпадкі неразумення беларускіх слоў, з якімі яна сустракалася ў працы. Загадчыца Літаратурнага музея Петруся Броўкі Наталля Мізон выступіла з дакладам пра культурныя праекты і сацыяльныя акцыі гэтай установы.

Галоўная падзея «круглага стала» — прэзентацыя вучэбна-метадычнага дапаможніка «Слова — тэкст — камунікацыя» (Мінск, 2014). Кнігу прадставілі аўтары: дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Інстытута журналістыкі БДУ Ганна Басава, доктар філалагічных навук прафесар БДУ Людміла Сінькова, дацэнт кафедры беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Вольга Барысенка. Дапаможнік, багаты на лінгвакультуралагічны і моўны матэрыял, падрыхтаваны для замежнікаў, якія вывучаюць беларускую мову. Выданне можа зацікавіць і рускамоўных беларусаў, беларусаў-білінгваў.

Г. Басава распавяла пра электронны дадатак да кнігі, на якім змешчаны беларускія песні ў прафесійным выкананні, фільм пра Беларусь і агучаныя тэксты. Паводле Л. Сіньковай, навацыя ў дапаможніку — прынцыповае змяшчэнне акцэнтаў з акадэмізму на прагматызм і даступнасць.

«У кожным з сямі раздзелаў выдання сур'ёзныя матэрыялы спалучаюцца з гумарам, гульнявымі элементамі, легкадумнымі ілюстрацыямі, што дазваляе апеляваць да масавай аўдыторыі, — зазначыла аўтар. — Разам з традыцыйна-рамантычнымі тэкстамі тут змешчаны жартоўныя, нефармальныя, якія матывуюць сучаснага навучэнца. Вершы М. Танка, М. Стральцова ды іншых не перашкодзілі ўключыць у кнігу матэрыялы са слэнгавымі назвамі папулярных месцаў Мінска».

Акрамя расповеду пра ўласныя праекты, удзельнікі і госці «круглага стала» абмеркавалі шляхі папулярызацыі беларускай мовы.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Каб ведаць латынь

**У межах тыдня беларускай мовы на філалагічным факультэце БДУ адбылася сустрэча з загадчыкам кафедры класічнай філалогіі Галінай Шаўчэнка і паспяховымі выпускнікамі адпаведнай спецыяльнасці — дацэнтам кафедры Ягорам Прыстаўкам і прафесарам кафедры гісторыі беларускай літаратуры Жаннай Некрашэвіч-Кароткай.**

Вядучыя мерапрыемства — дацэнты кафедры сучаснай беларускай мовы Тацццяна Рамза і Кацярына Любецкая. Галіна Шаўчэнка прыгадала гісторыю стварэння кафедры, якая ў гэтым годзе адзначае дваццацігадовы юбілей. Кафедра была заснавана ў 1995 годзе, а годам раней ажыццявілі набор на аддзяленне класічных моў і антычнай літаратуры. «Гэта быў гіганцкі крок наперад. Бо непамысна, каб на Беларусі, з улікам нашых адукацыйных традыцый, не было кафедры класічнай філалогіі», — падкрэсліла Жанна Некрашэвіч-Кароткая. З 1997 г. лацінскую мову ўключылі ў навучальныя планы васьмі факультэтаў БДУ і юрыдычнага каледжа. Гэта абумовіла неабходнасць не толькі адмысловай падрыхтоўкі выкладчыкаў, але і распрацоўкі навучальных і навучальна-метадычных дапаможнікаў, якія адлюстроўваюць спецыфіку кожнага факультэта. На сёння кафедрай класічнай філалогіі выдадзена 11 падручнікаў, некаторыя з якіх перасягнулі межы Беларусі і паспяхова выкарыстоўваюцца ў ВНУ іншых славянскіх краін.

Тацццяна Рамза параўнала дарогу навукоўца з хуткасным аўтабанам, дзе ёсць віражы, падрэзы, рэзкія спускі, але ніколі не здараецца паваротаў і немагчыма знізіць хуткасць. Сакрэтамі плённай навуковай і перакладчыцкай дзейнасці падзялілася Жанна Некрашэвіч-Кароткая. Што неабходна, каб перакласці «Прускую вайну» Яна Вісліцкага на беларускую мову? Не толькі дасканалае веданне латыні, але і здольнасць атрымліваць асалоду ад «малявання словам»! Для Ягора Прыстаўкі спецыяльнасць «Класічная філалогія» стала шляхам да здзяйснення мараў. Бо дзе яшчэ можна вывучыць стражытнагрэчаскую мову, каб прачытаць Новы запавет у арыгінале і ў дадатак падрыхтаваць пераклады ўлюбёнага Авідзія? У даследчыцкай працы Я. Прыстаўка звярнуўся да трактата навалацінскага паэта і тэарэтыка М. К. Сарбеўскага «Аб вастрыні і досціпе».

Шаноўныя лаціністы распавялі нямала цікавых фактаў з гісторыі і культуры Беларусі, згадалі добрым словам сваіх выкладчыкаў. Прыклад выдатных беларускіх навукоўцаў павінен натхніць і сённяшніх студэнтаў!

**Янка НАТАВЕЦ**

# Паклічам вясну

Стомленых ад зімы беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту запрашае паклікаць вясну вяснянкамі і карагодамі на свяце «Гуканне вясны», якое адбудзецца заўтра.

«Гуканне вясны» — адно з самых лірычных і прыгожых свят народнага календара беларусаў. Пачаткам года нашы продкі лічылі вясну — час сапраўднага абуджэння прыроды і надзей чалавека на лепшае жыццё. З першымі павевамі цяпла беларусы пачыналі гукаць птушак веснавымі спевамі-вяснянкамі, у якіх заклікалі вясну прыйсці на зямлю і прынесці з сабой «цёплыя дзянёчкі, частыя дажджочкі».

Адметнасцю «Гукання вясны» сёлета стане знаёмства з гукальнай абраднасцю Любанскага раёна. Падчас традыцыйнага абыходу двароў госці прадэманструюць абрад «Жавароначкі», які захаваўся ў вёсцы Юшкавічы, а каля вогнішча — абрад «Сыр на бярозу», характэрны для вёскі Рачэнь Любанскага раёна.

Кожны госць зможа ўзяць удзел у традыцыйным конкурсе «Жавароначкі, прыляціце-2015» на лепшую веснавую птушку, паўдзельнічаць у майстар-класах па народных танцах і вырабе птушак з саломы, тканіны, паперы і традыцыйных народных гульнях, павадзіць карагоды вакол вогнішча; убачыць выступленні музычных і фальклорных калектываў Мінска і Мінскай вобласці.

**Раіса МАРЧУК**

# Мову родную, край свой любіце!

**Пад такім дэвізам прайшло цікавае мерапрыемства ў мазырскай бібліятэцы-філіяле № 1, прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы.**

У кніжніцу завіталі на сустрэчу старшыня Гомельскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч, мясцовыя паэты, супрацоўнікі кніжніц, настаўнікі і вучні гімназіі імя Янкі Купалы.

Уладзімір Мікалаевіч расказаў пра літаратурную дзейнасць, зачытаў урыўкі з уласных твораў і так зачараваў аўдыторыю, што дзве гадзіны праляцелі як адно імгненне. Гімназісты задалі пісьменніку шмат розных пытанняў і атрымалі грунтоўныя адказы. Чыталі ўласныя вершы і іншыя аўтары, якія бралі ўдзел у імпрэзе.

**Ларыса РАСАДА**

# А ў Брэсце...

Прайшоў святочны канцэрт «Прызнанне», у якім бралі ўдзел фіналісты абласнога тура Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, музычныя калектывы вобласці і сталіцы.

Прывітаў удзельнікаў свята старшыня брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч. Затым на сцэне запанавала беларуская песня: з Міншчыны завітаў фальклорны гурт «Старое сяло», якім кіруе Васіль Грынь; Ірына Ляшкевіч, паэтэса і музыкант са столінскай вёскі Мачуль, прывезла дзіцячае ўзорнае аб'яднанне «Згадкі»; са Спорава прыляцелі падтрымаць канкурсантаў няўтомныя «Жаўручкі». А якое свята без кобрынскага «Бурштына»?..

Уручаючы граматы і падарункі ўдзельнікам абласнога тура Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, намеснік начальніка ўпраўлення культуры Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага аблвыканкама Вячаслаў Гарбузаў справядліва зазначыў, што ў маладым узросце далучэнне да роднага слова вельмі часта ідзе праз песню на роднай мове.

**Мікола СЯНКЕВІЧ**

# Чыя легенда лепшая?

Лютаўскі нумар «Бярозкі» звыкла адкрываецца творамі юных аўтараў: вершамі Анастасіі Сідарэнка і Марыі Кіркевіч, містычным апавяданнем адзінаццацікласніцы з Міёршчыны Ірыны Радзіхоўскай «Прывід старога замка». Таленавітае апавяданне, неардынарнае… Тыя, хто яго прачытаюць, упэўнены, не пашкадуюць.

Хачу звярнуць увагу чытача і на вясёлую байку Міколы Чарняўскага «Зазнайка» і фантастычнае апавяданне Алены Беланожка «Глобус Еўропы». Нельга не згадаць і арыгінальнае выхлумачэнне добра вядомага твора «Тарас на Парнасе», якое дае Пятро Васючэнка (рубрыка «Беларуская літаратура»). «Загадкі палясоўшчыка» — так называецца артыкул — зацікавяць не толькі вучняў, але і настаўнікаў-філолагаў.

Сярод старшакласнікаў заўжды нямала тых, хто марыць звязаць жыццё з тэатрам альбо кіно. Менавіта для іх у рубрыцы «КінаШкола» — артыкул «Чатыры канспекты на выбар». Вядучы рубрыкі Андрэй Палупанаў падрабязна распавядае юным чытачам, што неабходна для таго, каб стаць добрым акцёрам, рэжысёрам, апературам, прадзюсарам. А яшчэ «Бярозка» пачала новы конкурс — мясцовых легенд і паданняў. Першыя творы, дасланыя з Пружанаў («Пра герб горада Пружаны», «Пра князь-камень») і Міёраў («Пра вёску Мілейкі»), якраз змешчаныя ў лютаўскім нумары часопіса.

*P. S.* У «Гатавальні» гэтым разам вас чакае рэцэпт «паранай рэпы», якая згадваецца ў апавяданні Уладзіміра Караткевіча «Чортаў скарб».

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**16 сакавіка** — на сустрэчу з пісьменнікамі і святарамі, прысвечаную Дням праваслаўнай культуры. Мерапрыемства адбудзецца ў СШ № 164 (2-гі Веласіпедны завулак, 36). Пачатак a 11-й гадзіне.

**18 сакавіка** — у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на паэтычна-музычнае свята, прысвечанае 70-годдзю Вялікай Перамогі. Пачатак a 14-й гадзіне.

**19 сакавіка** — на сустрэчу з пісьменнікамі і святарамі, прысвечаную Дням праваслаўнай культуры. Мерапрыемства пройдзе ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак a 13-й гадзіне.

**19 сакавіка** — на літаратурнае свята ў Цэнтральную Бярэзінскую раённую бібліятэку (вул. Камсамольская, 27) з удзелам пісьменнікаў Наталіі Касцючэнкі, Міхася Пазнякова і Валянціны Паліканінай. Пачатак a 14-й гадзіне.

**19 сакавіка** — на творчы праект «Паэтычны чацвер», у межах якога адбудзецца сустрэча з пісьменнікам Навумам Гальпяровічам (публічная бібліятэка № 7, вул. Пляханава, 94/4). Пачатак a 17-й гадзіне.

**19 сакавіка** — у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на прэзентацыю кнігі паэтэсы Вольгі Шпакевіч «Душа-скарбонка». Пачатак a 18-й гадзіне.

**20 сакавіка** — на XVI Мінскія паэтычныя чытанні, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў Цэнтральнай Мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак a 14-й гадзіне.

**20 сакавіка** — у міжнародную літаратурную гасцёўню «Дыялог сяброў» пры грамадскім аб'яднанні «Дыялог Еўразія» (вул. Е. Полацкай, 1) на паэтычнае свята, прысвечанае Міжнароднаму дню паэзіі. Пачатак a 17-й гадзіне.

Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Міхайлавічу Ласенку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ Веры Максімаўны.

## Юрый САПАЖКОЎ



Як імкліва бяжыць час. І як хутка мільгаюць гады. Здаецца, толькі ўчора святкавалі мы 70-годдзе шаноўнага Юрыя Міхайлавіча Сапажкова, ладзілі сардэчную і шчырую вечарыну з гэтай нагоды. Віншавалі, па-сяброўску жартавалі, шмат чаго добрага жадалі. І вось ужо прыспеў чарговы юбілей — 75 год. На жаль, святкаваць гэтую адметную дату ў біяграфіі вядомага паэта і выдатнага перакладчыка сябры будуць ужо без самога юбіляра. Юрый Міхайлавіч пайшоў з жыцця амаль два гады таму. Але ці можна пайсці з жыцця канчаткова і назаўжды? Асабліва калі гаворка пра творчага чалавека. Паэўна, не! Бо засталася ж спадчына: таленавітыя вершы, пераклады, успаміны. Недзе ў вечнасці, у той самай наасферы, пра якую некалі пісаў Вярнадскі, мо знайшоўся маленькі куток і для нашага юбіляра. Высока ў космасе гучаць зараз радкі яго чароўных вершаў і ўзнёслых перакладаў. Далібог, мо спрачаецца ён у гэты момант з Лотманам ці з самім Шклоўскім пра мастацтва паэзіі, пра вартасць кожнага асобнага слова.

Хай сабе! Няма падставы турбавацца, што нешта з яго спадчыны згубіцца. Гэтага не будзе ніколі. Бо Бог, як кажуць шчырыя вернікі, зберагае ўсё. На гэта і спадзяёмся.

**Зінаіда КРАСНЕЎСКАЯ**

***

*Дзяўчо з мурашынаю таліяй —*
*Маё маладое натхненне.*
*Уся ты — як быццам праталіна*
*Між чэзлых снягоў*
*акружэння.*

*Не знаў я, сляпы ад кунегі,*
*Што самым дзівослівым стане*
*Мне востраў апошняга снегу,*
*Які неўзабаве растане.*

### Начная цішыня

*Жыццё імчыць, ажно*
*пружыняць восі:*
*За верасней — кастрычнік,*
*лістапад...*
*Каторы раз ужо трохтомнік восені*
*Збірае шматмільённы*
*свой наклад.*

*Ізноў душу крамсае, нібы нож,*
*Жаданне збегчы ў вёсачку*
*далёкую.*
*Там гукі носяць мяккія*
*пантофлікі*
*Або нячутна ходзяць*
*басанож.*

*Прачнуўся дождж і нешта*
*ўсё лапоча,*
*Бадай што ўспамінае*
*летні гром.*
*Мароз-кравец ці здолее уночы*
*Калюжыны залатаць*
*серабром?*

*Парадкую і думкі ўсе, і клопаты,*
*Спяшаюся, бо ўжо не тыя дні.*
*А што, як раптам,*
*бы мінёр*
*нявопытны,*
*Ўзарвуся на бяссонніц*
*цішыні?..*

### Якая ноч!

*А зорка — бы прабоіна...*
*Як нампаліт вучыў мяне штодня,*
*Канечне, кепска ціша перад боем,*
*Ды горай — пасля*
*бою цішыня.*

*Жыццё імчыць...*

### Мёртвае мора

*Ніяк немагчыма без болю*
*На морак блакітны глядзець.*
*Бунтуюць вятры дзесь на волі*
*Ваду — тут салёная смерць.*

*У цяжкім балючым растворы*
*Ні неба, ні дна не відно.*
*Гнеў Госпада, Мёртвае мора —*
*Паэт, што не піша даўно.*

**Пераклад з рускай мовы**
**Міколы ШАБОВІЧА**

### Кропка невяртання

*Пайсці ад звыклых берагоў,*
*Як і калісьці на світанні…*
*Існуе ў мове маракоў*
*Паняцце — кропка*
*невяртання.*

*Цяпер ужо ў апошні раз!*
*Хоць што наперадзе — пытанне.*
*Ёсць у жыцці любога з нас*
*Такая кропка невяртання.*

*Час вырашаць, як ні марудзь,*
*Дзе зман, дзе ісціна святая,*
*Паспець наказ душы пачуць*
*За крок да кропкі невяртання.*

*Калі назад — забудзь намер,*
*І свет падзелены на грані,*
*І штосьці гоніць, як на смерць,*
*Цябе за кропку невяртання.*

**Пераклад з рускай мовы**
**Міколы КАНДРАТАВА**

## Таццяна МАЦЮХІНА



***

*Здараецца,*
*добраю казкаю*
*у рэальнасці становяцца сны.*
*Міражамі бываюць здагадкі,*
*фантазіі сольнай вясны.*
*Ля скрыпкі ноты звіваюцца*
*сімвалам вечным жыцця.*

*Дорыць лёс мне пяшчоту*
*і радасць*
*ў сюіце майго адкрыцця.*

### Куфэрак шчасця

*Твае вершы жывуць светлякамі*
*Пад запечкам у хаце драўлянай.*
*Успамінаючы род свой вякамі,*
*Дакрануся да брамы нязнанай.*

*Той куфэрак ямчэй патрымаю —*
*Хай надоўга цяпло захавае.*
*У маўчанні крану ноту жалю,*
*Быццам клён,*
*што вясны*
*не чакае.*

*У куфэрку знайду я грабеньчык,*
*Што бабуля на шчасце схавала*
*Для любімай унучкі. На памяць*
*Гэту рэч перадаць абяцала.*

*Твае вершы жывуць светлякамі*
*Пад запечкам у хаце драўлянай.*
*Я дзяўчынкай бягу па парэчкі,*
*Каб адчуць сябе моцнаю паннай.*

## Наста РАГАЎЦОВА



***

*Людзі,*
*залежныя ад атмасферных з'яў,*
*нярэдка больш тонка адчуваюць*
*прыроду,*
*чым чалавека.*
*Дзіўна, але…*

***

*Ні ў чым цалкам*
*нельга быць упэўненым.*
*Нават у тым,*
*у чым вельмі перакананы.*

***

*З сумленнем нічога не паробіш.*
*Яно або ёсць, або яго няма.*

***

*Сапраўдныя чалавечыя стасункі —*
*што агонь.*

*Яны саграваюць,*
*ачышчаюць Душу…*
*Іх полымя то разгараецца,*
*То становіцца ледзь улоўным,*
*То зноў успыхвае з новаю сілаю…*

***

*Аддаляючыся ад прыроды —*
*ці не аддаляешся ад сябе?*

***

*І ў кожнага дрэва —*
*свая восень...*
*Як і ў чалавека.*

***

*Той,*
*хто не адчуў асалоды*
*ад еднасці з прыродаю,*
*той па-сапраўднаму*
*яшчэ не жыў.*

***

*Бунтаваць супраць*
*усталяваных прыродаю*
*законаў…*
*А ці ёсць у гэтым які сэнс?*
*Прырода ж — вечнасць.*
*А ты — імгненне.*

***

*Не чакай замнога —*
*не расчаруешся,*
*што выпала мала.*
*Радуйся гэтаму —*
*і яно здасца вялікім.*

***

*Лёс — тое, што не выбіраюць,*
*а тое, што спасцігае...*

## Расціслаў БЕНЗЯРУК



### Напрадвесні

*Напрадвесні, напрадвесні*
*Ад зямлі цяпло.*
*З першай жаўруковай песні*
*Сееца цяпло.*

*На паляне, сярод лесу,*
*Добра, як у сне,*
*Прабіваецца пралеска*
*Скрозь зляжалы снег.*

*Неба — сіняя аснова,*
*Нізам — светлы ўток.*
*У ствалах, бы ў бочках, зноўку*
*Бродзіць, пеніць сок.*

*Адчуваннем маладосці*
*Варта даражыць…*
*Марыць дзед — старыя косці —*
*Аж да ста пражыць.*

### Паводка на Палессі

*Мы дачакаліся вясны,*
*А з ёй — шумлівае паводкі.*
*Зноў пераселі людзі ў лодкі*
*У поймах Прыпяці і Цны.*

*Брыдзе жанчына па вадзе*
*У ботах тых, што сын рыбачыць.*
*У снах у мокрай хаце бачыць,*
*Што раніцай вада спадзе,*

*Як сонца ветла пагладзіць,*
*Прыносячы старой Надзеі*
*На шчаслівейшы*
*дзень надзею:*
*— Пара ўжо градачкі*
*садзіць!..*

### Дубок

*Дождж першы, радасны вясновы*
*Змывае смецце, гніль і фальш,*
*А кволы парастак дубовы*
*Стараецца ўзламаць*
*асфальт.*

*Прабіўся да жыцця ахвочы,*
*Ўздымае горда галаву,*
*Гарэзліва, нібыта хлопчык,*
*Гукае кожнаму:*
*«Жыву!»*

*Здзіўляе свет яго галас.*
*Старэча-клён, што*
*ўсё спасціг,*
*Малому кажа: «Будзь*
*як волат*
*І да нябёсаў дарасці!»*

*І ён расце, шчаслівы лёсам,*
*Гатовы зносіць боль і здзек,*
*Дацягнецца і да нябёсаў,*
*Калі не знішчыць… чалавек.*

### Вясновыя актавы

***І. Сакавік***

*Вясёлы шпак вясну вітае,*
*І дружна звоняць капяжы,*
*Ручай з суседам паспяшаюць,*
*Хто першы ў рэчку забяжыць,*
*А верабейка аб'яўляе:*
*«Я буду жыць!*
*Я буду жыць!»*
*Купаецца ў калюгах сонца,*
*Цяпла і радасці*
*бясконца!*

***ІІ. Красавік***

*Куды ні глянь — вакол раздолле.*
*У ліст прыбраліся лясы,*
*І дрэвы, быццам у прыполе,*
*Люляюць птушак галасы,*
*А красавік да ночы ў полі,*
*Ячмень пасееў і аўсы.*
*Шчыруе хлебароб*
*і помніць,*
*Што дзень вясновы*
*год накорміць.*

***ІІІ. Май***

*Да Дня Вялікай Перамогі*
*Абуджаны, прыбраны край.*
*Дождж у пару, не вельмі многа,*
*Каб добры вырас ураджай.*
*Пот выцер, сеў каля дарогі,*
*Папрацаваўшы ўдосталь, май*
*І думаў, далібог, пры гэтым:*
*«Хутчэй бы завітала лета!..»*

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# Хросныя



## *Апавяданне-быль*

*Уладзіміру Высоцкаму*

Проля — так звалі маю хросную, і такое ж імя насіла мая родная цётка. Невядома чаму на Палессі Еўфрасінню абавязкова перахрышчваюць у Пролю. Бо калі цётка з'ехала ў Растоўскую вобласць і атабарылася ў Аблюскім раёне хутара Лабачоў, данскія казакі не змаглі разабрацца з яе імем і празвалі Палінай. Маю маці Елізавету ў нашай вёсцы звалі Ліса і толькі на Ганцаўшчыне ў вёсцы Люсіна назвалі па-сапраўднаму, — Ліза. Аляксандру абавязкова назавуць Лексай, маю стрэднюю (стрыечную) сястру Параскоўю звалі Пашай, а прабабулю з такім жа імем — Параска. Маіх дзвюх бабуль Марый таксама па-рознаму называлі: таўмачаўскую — Маруся, малешаўскую чамусьці звалі Мар'я, а цётку — Марыя Нікіфараўна. Увогуле, звычка перакручваць на свой лад імёны пэўна ідзе ад продкаў, якія намагаліся падмануць Нядолю. Іншы раз перакручванне даводзіць да смешных сітуацый, што не толькі Нядоля заблытваецца, але і людзі блытаюцца: запрашалі з жонкаю гасцей на вяселле і ў спісе фігуравала імя Моця з Цераблін, узяліся падлічваць па колькасці мужчын і жанчын асобна, бо ад гэтага залежала закупка спіртнога, але вось паралельныя спісы ніяк не сыходзіцца. Пачалі разбірацца, аказалася, што Вераніка Моцю з Цераблін (у рэальнасці — Цімоха) увесь час заносіць у спіс жанчын.

Шмат таямніц, звычаяў і абрадаў захавалі палешукі яшчэ з тых, старажытных часоў, пра якія нават у летапісах не ўзгадваецца — толькі жывой людской памяццю перадаецца ад сэрца да сэрца праз пакаленні, каб нашчадкі, гэта значыць мы з вамі, маглі штосьці зразумець.

Вось хоць бы гэтае. Чаму палешукі выбіраюць не адну хросную, — а дзве, дзве хросныя маці і два хросныя бацькі? З чатырох розных сем'яў апекаваліся дзіцяткам.

Проля была з нашага роду, яе бацька Павел Адамавіч — стрэдні (дваюрадны) брат майго дзеда Мікалая, быў легендарнай асобай на сяле: загадчык свінафермы, брыгадзір, першы кавалер ордэна Леніна, пра яго і ў газетах часта пісалі, але палешукі не надта любяць цярпець над сабою якую б то ні было ўладу, бо пачуваюцца людзьмі вольнымі і незалежнымі, таму і зганьбілі людзі, празваўшы за вочы Куцыкам. Так Проля стала Куцыкава: «Куць-куць-куць!» — такім чынам у нас падзываюць свіней да карыта, калі даюць есці. На той калгаснай свінаферме яна пазней і працавала, спачатку ветэрынарам, а затым і загадчыкам. Там жа, калі я быў зусім маленькім, працавала і мая маці.

Адным летам (пэўна баба Маруся была ў бальніцы, і мяне не было на каго пакінуць) некалькі тыдняў запар маці брала мяне на свінарнік. Садзіла, бывала, каля руля на раму ровара і везла з сабою на работу. Сама размешвала ў ваганетках свінячае пойла, налівала ваду, сыпала апілкі і салому для подсцілкі, а мяне пакідала вольным. Гуляў сабе каля свінарніка ў свае дзіцячыя гулі, корпаўся ў кучы апілак або заходзіў у хляўчук да маленькіх парасятак. Гэта было маёй любімай забавай на свінарніку: парасяткі тыкаліся вільготнымі лычыкамі ў твар, абнюхвалі мяне, пахрукvалі, а я круціў іх за вушы, цягаў за поўсць, або торкаў пальчыкам у вочы, спрабуючы выцерабіць бліскучы шарык — і так добра мне было сярод жывога маладога свінства, што кожны раз з радасцю працягваў ручкі ўверх, калі маці ў чарговы раз выпраўлялася на свінарнік. Але аднойчы здарылася нешта для мяне незразумелае. Хутчэй за ўсё, баба Маруся вярнулася з бальніцы, і маці цяпер непатрэбна было цягаць мяне з сабою на работу, а я за гэты час так прыкіпеў да вольных дзіцячых забаў, і вось — працягваю да матулі ручкі, а яна не садзіць на ровар і строга гаворыць, што нельга. Не ведаю, колькі гадоў тады мне было, але помніцца, што гэта стала маім першым сур'ёзным расчараваннем у жыцці: «Хачу!» — тупаю патрабавальна ножкай.

«Я сказала, не! Застанешся дома».

«Мамо, возьмі мене! — ужо слёзы наварочваюцца на вочы, — мамочко, міленькая моя, возьмі мене до поросьток». Ужо і хныкаць пачаў, каб толькі разжалабіць яе. А яна і слухаць не хоча.

Перакідвае нагу цераз сядло: «Я сказала, сядзі дома! Мне нема колі». Я кідаюся да ровара, хапаюся за раму, стаўлю ножку на веласіпедны ланцуг і з дзіцячай паляшуцкай упартасцю цераблюся ўверх: «Усё одно поеду з тобою!» — але маці адграбнула мяне рукою ўбок, ускочыла ў сядло і адштурхнулася нагою ад зямлі, закруціла педалямі. А я — у крык, у роспач, у слёзы… Бягу за роварам, спрабую дацягнуцца да багажніка, урэшце ўхапіўся пальцамі, мяне смыкнула ўперад і — паляцеў на зямлю. Маці прыпынілася на хвіліну, крыкнула камусьці: «Дзержэце Толю!» — і зноў паехала. Я падхапіўся з зямлі і пабег следам. Чыесьці дужыя рукі схапілі ззаду, адарвалі ад зямлі і сціснулі ў абдымках. Я вырываюся, брыкаюся нагамі, луплю варожае стварэнне па твары… Адпусцілі, і я зноў пабег наўздагон. Але маці на веласіпедзе нястрымна аддалялася. Не дагнаць цяпер… Сеў у адчаі на дарогу і горка заплакаў. «Як жа так? Я ж так хачу да парасятак, мне так добра з імі гуляцца, а мая родная маці не разумее, што мне трэба туды. Чаму яна не ўзяла мяне?» — сядзеў у пылоце на дарозе і заліваўся горкімі слязамі, размазваючы бруд па твары. Вялікая крыўда на ўвесь Божы свет сціснула тугою сэрца. Мая родная маці, мамулечка мая, не разумее, што мне туды трэба, што мне туды хочацца, там мне добра, там жывыя цацкі-парасяткі…

І яна ж не паслухалася, як ні прасіў, — не ўзяла з сабою. Гэта было маім самым вялікім расчараваннем дзяцінства, якое запомнілася. Першае сур'ёзнае расчараванне ў жыцці, у блізкім чалавеку — крыўда на ўвесь Божы свет. Можа, таму і вывучыўся потым на «Доктара-Айбаліта», што з дзяцінства палюбіў жывое…

Другая мая хросная — Аляксандра Толмачэвец, цётка Лекса. Зведала яна цяжкэзную долю-судзьбіну, зусім маладым загінуў яе муж Аляксей у аварыі, тая аварыя ўскалыхнула болем усё Толмачава, бо загінула адразу некалькі мужчын, маладых, дужых, а муж хроснай ці пяражыў трыццаць, ці яшчэ маладзейшы быў… Сама Лекса падымала дзяцей, дай бог памяць: Лёша, Грыша, Лёня, Толя, Вася… Пяцярых на ногі паставіла. Так Бог судзіў, што старая Мішчыха, бабуля маёй хроснай Пролі, выцягнула мяне за валасы з Яцеля ўжо беспрытомнага, ледзьве адкачаць змаглі, так і я для сваёй хроснай Лексы (ці не пяцігадовым?) «дапамог» уратаваць Грышу, яе сына, забегшы ў старую Мадзяркаву хату, дзе гуло вяселле Аляксея Крука з Ксеняй з Лутак, і крыкнуў дарослым: «Дзіця тоне!». Але гэта тэма асобнай гісторыі…

Першы хросны бацька — Дарожка Іван Адамавіч, па-вулічнаму яго звалі Іван Сала. Іван Адамавіч працаваў доўгі час у нашым калгасе парторгам і вельмі сябраваў з маім бацькам. У пачатку васьмідзясятых з'ехаў на павышэнне кудысьці пад Брэст і болей у роднай вёсцы яго не сустракаў.

Другім хросным быў наш сусед праз агарод, Кудласевіч Аляксей Якаўлевіч, па-вулічнаму — Берачка, доўгі час працаваў з дзедам Мікалаем на калгаснай піларамe. Помніцца, аднойчы зімою гналі самагонку. Для здабывання сівухі было распрацавана некалькі тэхналогій. Можна было гнаць стацыянарным самагонным апаратам, які вандраваў ад гаспадара да гаспадара, бралі падводу і ехалі ў лес ці ў кусты куды далей ад вёскі, усталёўвалі там начынне і цэлулі самагнёт на прыродзе. А можна было інакш, усталёўваць апарат проста ў хаце. Для гэтага дзед Мікалай, на ўсе рукі майстар, разабраў частку грубкі, нейкім мудрагелістым чынам туды ўмуроўваў чан з вадою, ад якога ішла труба, а па ёй гарачая пара патрапляла ў «бражнік», далей праз «адстойнік», «сухапарнік» — у «змеявік», адкуль капала чароўная вадкасць. Усё гэта ўсталёўвалася ў суседнім пакоі, спальні — і калі чужы чалавек заходзіў у хату, то і не мог адразу здагадацца, што тут гоняць самагонку. Топіцца грубка сабе ды і топіцца. Безумоўна, ёсць такія людзі на вёсцы, якія абавязкова прададуць, а калі міліцыя даведаецца, то бяды не абярэшся і, бывала, адным штрафам і не абыдзешся. А брага, а сам апарат? Гэта ўсё грошай каштуе. А нават калі і абыдзешся штрафам, то ўсё адно растраты гаспадар панясе немалыя. Таму і наказвалі вельмі строга дзецям, каб нікому не казалі, што гонім самагонку. Так і тады было. Мне мо трохгадоваму ўбілі ў галаву, каб нікому «ані-ні»! Напужалі мяне, настрашылі, а ў чалавека такі нораў, што «забаронены плод» тым больш спакусным уяўляецца. І вось заходзіць Берачка да нас вечарам у госці і адразу з парога моцна здзіўляецца:

— Ого! А чаго гэты вы так нажарылі ў хаце? Духацішча як у бані. І дроў тобе, Мікалай, не шкода? На вуліцы адліга.

— Гэто ж старая ўвярнула, казаў, што досыць, — паспрабаваў растумачыць духату дзед, — ужэ не сталі головешкі вуцягваць з грубы, коб дыму не наробіць у хаце.

А я кручуся пад нагамі, бачу, нешта не зусім зразумелае вычвараецца, вазьмі і выдай адразу: «А гэто мы самогонку гонім» — задаволены тым, што растлумачыў даросламу прычыну. Тут баба Маруся падскоквае да мяне і пальцам пагрозліва махае: «А ці ж гэто можно чужому казаць? Мы ж цебе поперэджвалі».

— Так я ж не чужому… — знайшоўся адказ, — я ж хросному бацьку.

Дарослыя і пакаціліся ад рогату. І прыйшлося дзеду Мікалаю наліваць хроснаму, каб той зняў пробу, — гэта па-першае, а, па-другое, калі чалавек вып'е, то ўжо стапрацэнтна не прадасць.

Вось такія мае хросныя. Але гэта яшчэ не канец гісторыі, бо заканчваецца яна неверагодным чынам. Гадоў восем таму, калі я прыехаў на радзіму, пайшоў да сваёй хроснай Пролі. Здаецца, свінчо захварэла, а ў мяне на той час ужо дома ні шпрыцоў, ні лекаў не было, бо некалькі дзясяткаў гадоў жыў у сталіцы, ды і раней, калі маці па старой звычцы прасіла «паглядзець» што з каровай або свінчом (ты ж, маўляў, ветэрынар), мне рабілася страшна, бо ўсё веданне хваробаў жывёл за гады пазабывалася. Разгаварыліся мы з Пролях (я ж калісьці і практыку пад яе кіраўніцтвам і наглядам праходзіў). А цяпер, бач ты, на радыё працую, кніжкі выдаю, у людзі выбіўся, пісьменнік… І яна ганарыцца мною. Але толмачаўцы ведаюць, што Толя ніколі не задзіраў нос, бо так у народзе кажуць, што толькі пусты колас галаву дзярэ ўверх, а той, які наліты зернем, хіліцца бліжэй да зямлі. Пра тое-сёе пагаварылі, а потым мне раптам і сорамна стала чамусьці, што вось не ведаю нават, калі ў хроснай дзень нараджэння, ніводнага разу не павіншаваў яе. Вазьмі і спытайся: «А калі вы нарадзіліся?»

— На Шчодрэц, перад старым Новым годам, трынаццатага студзеня.

— Праўда? — здзівіўся я. — Нічога сабе. Трынаццаць — мой самы любімы лік. Вось дзіва: апосталаў разам з Хрыстом было трынаццаць. Дарэмна гавораць, што лік гэты — «чортаў тузін». Усё Божае. Д'ябал нічога свайго не мае, мне нават манах такое казаў у манастыры… Усё, што ёсць, усё Гасподзь дае. У мяне нават аповесць адна друкаваная так і называецца «Трынаццаць дзён з дзённіка Антона Кудлатага», — а потым, вазьмі ды і скажы жартам: я ведаю, што чалавек не мае ўлады над тым, калі яму паміраць. Калі выспявае яго час, тады Бог і забірае… Але калі вы так сімвалічна нарадзіліся, то вазьмецьда і падбярэць сабе дату смерці трынаццатага чысла, калі гэты будзе магчыма? Мо тады мне лягчэй было б?

«Обізацельно, — засмяялася па-добраму хросная, — колі будзе можна, то падам тобе знак».

І вось мінулай вясною на Радаўніцу, блукаючы па родных могліцах, разглядваючы знаёмыя з дзяцінства твары родных і блізкіх мне людзей, нечакана выйшаў на магілу хроснай. Тады і даведаўся раптам, што палеская Проля — гэта тая ж Еўфрасіння, бо зірнуў на фотаздымак сваёй хроснай, на даты жыцця і смерці, і раптам абамлеў, а затым і слёзы навярнуліся на вочы: Вячорка Еўфрасіння Паўлаўна (13.01.1948 г. — 13.06.2008 г.), — прачытаў я. Падала знак мне хросная…

*P. S.* Ужо калі апавяданне было напісана, пазваніў свайму адзінаму сябру дзяцінства Славу Гананайку, каб разабрацца ў рэшце рэшт: чаму гэта на Палессі нашы толмачаўцы бяруць ажно чатырох хросных?

— Што тут чатырох? — засмяяўся Слава, — тут нядаўна Толя Чалдонаў (Дарожка), з якім ты на «плашчадцы» гайкі круціў (я ж у яго дзіцей хрысціў), дык для апошняга дзіцяці ўжо трэцяга бацькі ўзяў, тры хросныя бацькі і тры хросныя маці… Мала таго, дык яшчэ і моду ўзяў — дзяцей сваіх пачаў хрысціць толькі на Роздво, на Раство Хрыстова.

Вось такія мае мудрыя палешукі. А Толя Дарожка калісьці быў першым слухачом маіх вершаў… Толмачаўцаў у навакольных вёсках завуць «паліцікамі», што значыць мудрымі і абачлівымі людзьмі. Нядаўна, выступаючы па запрашэнні Веры Буланды ў музеі Петруся Броўкі і распавёўшы пра тое, што на Палессі бяруць некалькі хросных для дзяцей, я пачуў з залы адказ, што на ўкраінскім Палессі робяць тое ж самае… Госпадзі, зберажы маё роднае Беларускае Палессе ад вайны і пажараў…

# Алгебра ў гармоніі

Непрызнана галоўная роля ў літаратурных часопісах аддаецца мастацкім тэкстам. Імі часопіс адкрываецца, яны надаюць выданню пэўнае аблічча. Аднак надараюцца такія нумары, у якіх літаральна немагчыма адарвацца ад публіцыстычнага ці навуковага артыкула альбо ад нататак на «вострую» тэму. «Полымя» ў лютым пабіла ўсе рэкорды.

Калі вы таксама маеце звычку чытаць з канца, пасля шэрагу рэцэнзій і «Эпісталярыя» вас чакае тэатральны падарунак ад Таццяны Арловай. Вядомая тэатразнаўца прысвяціла артыкул Генадзю Аўсяннікаву, нядаўняму юбіляру. Але называць гэтую публікацыю юбілейнай не хочацца: мастацкі партрэт, выпісаны Таццянай Дзмітрыеўнай, сягае далёка за межы названага жанравага падвіду. Тут ёсць нешта большае за пералік галоўных роляў з іх характарыстыкамі, большае за аповед пра асобу акцёра. «Кароль і блазан» (красамоўная назва) не акрэслівае акцёрскі дыяпазон Генадзя Аўсяннікава, а скіроўваецца ўглыб, у самую сутнасць таленту, у суплёт акалічнасцей, якія ўплывалі на фарміраванне акцёра, і супярэчнасцей, што выяўляліся ў ім самім — у жыцці ці падчас ігры. Да таго ж тэкст суправаджаецца рэдкімі здымкамі, якія не знайсці ні ва ўсемагутным гугле, ні на абноўленым сайце Купалаўскага тэатра.

Працягвае чытанне «наадварот». «Аднак айчынная літаратура мае і пэўныя праблемы, якія, відавочна, могуць быць пераадоленыя, калі пісьменнікі ўсвядомяць тую простую ісціну, што мастацкае слова нічога не вартае само па сабе, яно каштоўнае толькі тады, калі ў яго ёсць чытач». Артыкул, які заканчваецца (для нас — пачынаецца) такімі словамі, асуджаны на прачытанне. Ганна Кісліцына пачынае развагі пра «пошукі новых камунікатыўных сродкаў у мастацкай літаратуры XXI стагоддзя» з апісання сучаснага літаратурнага героя. Хто ён такі? Даследчыца піша, што адказ сённяшняя літаратура дае нечаканы (з чым не магу пагадзіцца): сучасны чалавек «разгублены, дэзарыентаваны, без адчування каранёў, без адчування перспектыў». Такі ж дэзарыентаваны цяпер і пісьменнік, калі справа выдання робіцца справай «самих утапаючих». Масавы чытач, узгадаваны на масавай культуры, да яе ж і звяртаецца. Падладжваючыся пад новыя густы (ці іх адсутнасць), аўтары пазбаўляюць свае творы «ідэйнасці», сціраюць мяжу паміж высокай і нізкай літаратурай, спрабуюць справакаваць чытача. Такія сумніўныя «камунікатыўныя сродкі».




Дарэчы, цікава, што празаічная частка лютаўскага нумара «Полымя» дакладна адлюстроўвае тэндэнцыю, апісаную Г. Кісліцынай: апавяданне Алеся Жука, апавяданне Васіля Макарэвіча, запісы з фэйсбука (дзеля чаго такое ўдакладненне?) Уладзіміра Сцяпана; у знойдзеных нататках Уладзіміра Марука — «абрысы няспраўджаных вершаў», якія можна назваць абразкамі, у «Галасах свету» — кароткія апавяданні Горана Петравіча. Ніводнай буйной формы.

Тэму «чытач — аўтар» працягвае Аксана Бязлепкіна ў артыкуле «Беларускі літаратурны працэс: зачараванае кола». Калі вельмі сцісла, за адсутнасцю сродкаў і спецыялістаў (іміджмэйкераў, літаратурных агентаў) пісьменнік у справе папулярызацыі сваёй творчасці можа спадзявацца толькі на адно — школьную праграму, якую ствараюць усё тыя ж людзі, і ў выніку «аберацыя блізкасці непазбежная».

Як Таццяна Арлова даследуе талент акцёра, так Алесь Дуброўскі даследуе талент паэта. І як артыкул, прысвечаны Генадзю Аўсяннікаву, ахоплівае многае па-за асобай героя, так і аналіз майстэрства Рыгора Барадуліна часта выходзіць на больш шырокія, абстрагаваныя развагі пра самую сутнасць таленту і мастацтва. «Законы прыгажосці — гэта законы гарманічнага паяднання формы і зместу. Без гэтага бывае толькі прыгожасць». Так аўтар ператвараецца ў фокусніка, які тлумачыць зачараваным дзецям, як стваецца магія.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Нічога святога!

У другім нумары «Вожыка», што выйшаў у свет перад святамі 23 лютага і 8 Сакавіка, знойдзецца шмат жартаў пра ўзаемаадносіны мужчын і жанчын. Большая іх частка змешчана ў чарговай міні-кніжцы пад назвай «Ён і яна».

Жанатыя мужчыны разам з Віктарам Кунцэвічам змогуць задумацца пра цяжкае становішча мужоў у сям'і, а нежанатыя — пры жаданні — павучыцца ў Андрэя Сідарэйкі шукаць нявесту. Самых хітрых і галодных чакаюць парады ад Васіля Ткачова, а рамантычных і закаханых — паэтычныя замалёўкі Расціслава Бензярука і Валянціны Бабко-Аляшкевіч. Міхась Міранович як заўсёды здзівіць вясёлымі і трапнымі «Міранізмамі».

Барыс Кавалерчык падказвае жанчынам, як знайсці правільны шлях да сэрца мужчыны. Далучаецца да яго Барыс Бележэнка. З карацелек Лёлі Багдановіч можна даведацца, чаму веласіпедыстам не шанцуе ў каханні, а з верша Галіны Нупрэйчык «Гаспадары» — ці варта пакідаць хатніх жывёл адных каля накрытага стала.




Фельетон Наталлі Кульгавай «Дарослыя законы для дзяцей» падштурхне ўсіх цікаўных да прачытання (ці перачытання) «Муму» і «Прыгод Тома Соера», а міні-фельетон «Цудадзейныя штрафы» — да пільнага разгляду рэкламы, у якой даюцца звычайна нерэальныя абяцанні.

Змяшчае нумар і пароды Анатоля Зэкава і Аляксандра Быкава. Здзіўленне і спачуванне выклікае «Скарга» ад таленавітага паэта Арцёма Зарэчнага, якой падзяліцца Міхась Сліва.

Гісторыя пра ««Пляшпарт» цёткі Антохіі» ад Фёдара Лапаніка пацвердзіць думку, што смажыць карпаў можна і на маргарыне, а фотаздымак ад Вольгі Шамякінай у рубрыцы «Мабільны фотапрыкол» пакажа, як сацыяльныя сеткі ўзнікаюць у звычайным пад'ездзе.

«Калючык» прапануе маленькім чытачам пазнаёміцца з захапляльным урыўкам з кнігі Галіны Пшонік «Чарадзейны калейдаскоп» пра хлопчыка Змітрака і яго сябра з горада Хлуска.

Не забудзецца «Вожык» і на здаровы лад жыцця. Алена Масцерава заахвоціць да фізічных нагрузак надзвычай рэалістычнай гумарэскай «Сямейная спартландыя», Мікола Грабянёк у вершы «Фанаты» прывядзе прыклад сапраўдных аматараў хакея, а карыкатурыст Аляксандр Каршакевіч дапаможа прывучыць да спорту людзей любога ўзросту.

Дарэчы, малюнкі і карыкатуры лютаўскага нумара выклікаюць самыя разнастайныя пачуцці. Новая рубрыка «Звярні ўвагу» прапануе задумацца над праблемамі сучаснасці, «Модныя замалёўкі» — паглядзець на футра са скунса і іншыя дзіўныя жаночыя ўборы, а рубрыка «ІмпАрт» — пазнаёміцца з творчасцю дацкага мастака-карыкатурыста Херлуфа Бідструпа. Акрамя гэтага, у нумары змешчаныя падборкі малюнкаў як сталых майстроў алоўка (Мікола Гіргель), так і маладых творцаў (Карына Пацко).

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

# Блізкія па светаадчуванні

Чарговы нумар «Нёмана» атрымаўся рэалістычным, душэўным і крыху пра вайну. Апавяданні Сяргея Лапцэвіча, Алены Кошкінай, Мікалая Сердзюкова блізкія між сабой амаль дакументальнай рэалістычнасцю. У параўнанні, напрыклад, з перакладным раманам Ірэн Неміроўскі «Іезавіль» (суд, курцізанка з вышэйшага свету, прага быць каханай і дзіўнае забойства) у творах беларускіх аўтараў мала прыдуманага, выключнага і бліскуча-яркага. Іх апавяданні — спроба асэнсаваць сваю эпоху, уласны жыццёвы вопыт, адметныя здарэнні і ўражанні. Героі твораў — мастак-педагог «не ад свету гэтага», паспяховы бізнесмен, жыццярадасная і ўважлівая настаўніца, ваенны фельчар дзядзя Косця, да якога прыязджае давучвацца ў школе ніколі не бачаная дачка. Апавяданні з рознымі сюжэтамі, аднак ім аднолькава ўласціва гуманістычнасць, пачуццё настальгіі, дастаткова крытычнае і разам з тым удзячнае стаўленне да жыцця. Гэтыя ж рысы характэрныя для іншых публікацый: успамінаў Паўла Навуменкі пра бацьку Івана Навуменку, вершаў Васіля Макарэвіча, Георгія Кісялёва, Рыгора Барадуліна, Іосіфа Рогаля... У паэзіі побач з чуласцю і пэўнай меланхалічнасцю прысутная ўвага да прыроды — сугучнай па настроі душэўнаму стану аўтара альбо самакаштоўнай, як на пейзажах.

Падабенства светаадчування аўтараў нумара ў значнай ступені тлумачыцца прыналежнасцю да блізкіх узроставых катэгорый: лінія старту — 50 гадоў. Крыху маладзейшы Сяргей Лапцэвіч друкуецца ў «Нёмане» ўпершыню, і яго апавяданні сведчаць пра выдатныя літаратурныя здольнасці. Па-першае, героі атрымліваюцца нязмушана абаяльнымі, і з імі было б няблага выправіцца як мінімум у аповесць. Па-другое, роздумы пра жыццё добра стасуюцца з развіццём падзей — атрымліваецца канцэптуальна, але не нудна. Сюжэты апавяданняў наогул традыцыйныя для літаратуры: «Фёдар Міхайлавіч» — жыццеапісанне двух мастакоў, дачкі і бацькі, з пункту гледжання іх нядаўняга знаёмага, «Прагрэс» — своеасаблівае «вяртанне ў мінулае» з непазбежным жалем аб страчанай маладосці. Творы ў пэўнай ступені аб'яднаныя роздумам пра актуальныя сёння паняцці «асоба» — «індывідуальнасць» — «калектыў». Развагі аўтара і яго герояў нязменна выклікаюць цікавасць: «Кампанія — гэта некалькі звязаных вельмі асабістымі адносінамі сяброў, а вось тусоўка — штосьці значна больш шырокае. Гэта грамадства, прынамсі, спроба стварыць грамадства, альтэрнатыўнае таму, што мелася навокал. (...) разам — яны былі сілай і, напэўна, зграяй (альбо зграйкай), прынамсі, калі яны былі разам, вялікі, афіцыйны свет асабліва да іх не соваўся. Свабода — вось дар, які яны атрымлівалі, пакуль былі разам».

Лепшымі старонкамі «Сусветнай літаратуры» сталі вершы больш як дваццаці кітайскіх паэтаў з часу далёкіх дынастый Сун, Тан і Юань — у перакладзе Лі Цзо. Адзінота і ўспаміны пра дарагія сустрэчы, слёзы ад думак пра блізкую вайну, кароткія пабытавыя замалёўкі і сузіранне прыроды — многія тэмы і вобразы, характэрныя для кітайскай паэзіі, ёсць у гэтай невялікай падборцы.




Між лепшых публікацый нумара — «Некалькі ўспамінаў да юбілею» П. Навуменкі. Напачатку гэта нават не расповед пра знакамітага пісьменніка і навукоўца, а ўспаміны пра ўласнае маленства, дзе самымі цікавымі рэчамі былі бацькавы ручкі, цыгарэты, гадзіннікі, медалі і, вядома, кнігі. «Адчуванне вечнасці кнігі, яе пазачасавай каштоўнасці, кантраст са светам запальнічак, гадзіннікаў і ручак вельмі ўражваў. Кніга не рабілася старой, не абесцэньвалася, не выглядала недарэчнай, састарэлай і архаічнай. Яна была цікавая заўсёды — нават калі гэта быў злавесны томік Бэндэ з яго бібліятэкі (...)». Ад памятных момантаў аўтар пакрысе пераходзіць да значнага — да развагі пра парадоксы часу, пра спадзяванні старэйшага пакалення і сучаснасць.

Добра чытаецца і інтэрв'ю С. Берасцень з арт-дырэктарам некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра Валерыем Уколавым, і прадмова І. Найдзенкава да рамана Ірэн Неміроўскі. Матэрыялы нумара гарманічна спалучаюцца між сабой, і не толькі ад С. Лапцэвіча, але і ад многіх іншых аўтараў хочацца чакаць працягу.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Адкрываем і здзіўляемся

Лютаўскі нумар «Маладосці» здзівіў і пацешыў ужо з першых старонак — выявай рукапіснага дзённіка Элаізы Ажэшкі. Пад фотаздымкам змешчаная прадмова, якая тлумачыць, што ў рубрыцы «Пераклады» апублікаваны фрагмент з гэтага невялікага, крыху пашарпанага сшытка. Але не трэба спяшацца і гартаць часопіс адразу да раздзела перакладаў — гэта не адзіная прыемнасць у нумары.




Далей запар ажно тры не падобныя адно да аднаго інтэрв'ю. Наталля Аўдзеева распавядае пра прафсаюзныя арганізацыі і пра тое, што «выпадковых кіраўнікоў сярод жанчын не сустракаецца». Мастак і фотамастак Міхась Рыгоравіч Баразна — пра нялёгкі шлях да мастацтва і строгі адбор у Акадэмію. Але самая незвычайная размова — з франкафоннай тэатральнай трупай «Атэлье», і чытаецца яна як сцэнар эксперыментальнай п'есы. Маладыя людзі ўжо ўдзельнічалі ў міжнародным тэатральным фестывалі ў Познані і падалі заяўкі на фестывалі ў Бельгіі і Парыжы. Пасля некалькі старонак інтэрв'ю і прамяністых вачэй на фотаздымку не застаецца сумневаў, што ўсё ў тэатралаў атрымаецца!

Прыемна здзівілі творы з рубрыкі «Упершыню ў «Маладосці». Вершы студэнткі Інстытута журналістыкі Веранікі Пуставіт вылучаюцца дзявоцкасцю і крыху наіўнасцю (у самым станоўчым сэнсе), у іх прастаце і лаканічнасці ёсць нешта «ўсходняе». Вельмі шчырая і лірычная паэзія таксама ў падборцы «На наступным узроўні сталасці» Вольгі Паўлюкевіч. А вось празаічны дэбют Святланы Магілеўчык у «Маладосці» прыцягвае ўвагу не столькі самімі творамі, колькі гісторыяй аўтара: каректар Бялыніцкай раёнкі праз працу закінула пісьменніцтва ў далёкі кут, а цяпер вяртаецца да яго, прычым паспяхова.

Мікіта Найдзёнаў радуе прыхільнікаў музычнага гурта «Hurma» новымі песнямі, а чытачоў «Маладосці» — вершамі. Хоць, магчыма, гэта адны і тыя ж людзі.

Адкрыццём у прозе стала аповесць Югасі Каляды «Je suis ton ange gardien». Маладая пісьменніца ўжо вядомая ў літаратурных колах, яе кнігу «Галоўная памылка Афанасія», якая выйшла ў 2005 годзе, філосаф Ігар Бабкоў назваў «самым скандальным і контраверсійным літдэбютам дзесяцігоддзя», а саму Югасю ў разгляданым нумары, у раздзеле крытыкі, Віктар Корбут называе «аўтаркай найлепшай жаночай аповесці».

Аматараў фільмаў і кінакрытыкі чакае раздзел «Cathedra», у якім Маргарыта Дзяхцяр прадстаўляе адразу пяць тэкстаў — рэцэнзіі на тры кінастужкі («Рымскія прыгоды», «Яна», «Зараз самы час») і спектакль Яўгена Грышкаўца «+1», а таксама эсэ, у якім аўтарка шукае адказ на пытанне: кіно — забава ці нешта большае?

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Запіскі маладога лекара

**Ніколі не хацела быць доктарам. Нават у дзяцінстве, калі амаль усе аднакласнікі марылі аб прафесіі лекара, каб ратаваць людзей. Магчыма, таму, што змалку баялася крыві і ад аднаго яе выгляду магла страціць прытомнасць. А можа, ужо тады разумела, якая гэта неверагодна складаная задача — быць адказным за жыццё і здароўе іншага чалавека. Але ёсць людзі настолькі смелыя, што не толькі абіраюць складаны шлях лекара, але і пішуць пра яго мастацкія творы. Адзін з такіх — Мікіта Волкаў.**

Творы Мікіты Волкава вылучаюцца надзвычайнай рэалістычнасцю, дакладнасцю і насычанасцю медыцынскімі тэрмінамі, бо ўсе сюжэты заснаваныя на асабістым досведзе аўтара. Узгадаць, напрыклад, апавяданне «Камандзіроўка», у якім дзея разгортваецца ў анкалагічным цэнтры напярэдадні Калядаў. Два маладыя лекары аглядаюць смяротна хворую дзяўчынку-сірату. Аднаго з дактароў малая прымае за бацьку, той, расчуліўшыся, аддае ёй цукеркі ў падарунак і абяцае вярнуцца, каб забраць дзяўчынку. «І не вярнуўся ніколі», — апошняя фраза ў творы.

Шмат у чым аповеды Мікіты Волкава нагадваюць «Запіскі маладога лекара» Міхаіла Булгакава. Апавяданне «Плюх», надрукаванае ў першым сёлетнім нумары часопіса «Маладосць», чарговы раз пераконвае ў гэтым.

Апавяданне можа стаць сапраўдным шокам нават для падрыхтаванага чытача, які знаёмы са стылістыкай і тэматыкай аўтара. Па назве твора цяжка здагадацца, што тэмай новага апавядання Мікіты Волкава стала такая медыцынская працэдура, як аборт. Сюжэт цікавы і небанальны, нягледзячы на даволі ардынарную праблематыку твора, і само апавяданне, лаканічнае і дакладнае, пазбаўлена павучэнняў і маралі.

> *Шмат у чым аповеды Мікіта Волкава нагадваюць «Запіскі маладога лекара» Міхаіла Булгакава. Апавяданне «Плюх», надрукаванае ў першым сёлетнім нумары часопіса «Маладосць», чарговы раз пераконвае ў гэтым.*

> *Рэалістычнасць апісанняў і ўвага да дэталяў уражваюць. Усе тыпажы — ад санітаркі і медсястры да акушэркі і загадчыцы бальніцы — настолькі пазнавальныя, што складваецца адчуванне задзіночання з героямі.*

Рэалістычнасць апісанняў і ўвага да дэталяў уражваюць. Усе тыпажы, ад санітаркі і медсястры да акушэркі і загадчыцы бальніцы, настолькі пазнавальныя, што складваецца адчуванне задзіночання з героямі. Таксама аўтару ўдалося трапна апісаць інтэр'еры і перадаць атмасферу лякарні, так

> *Дасведчанасць у медыцынскай сферы дапамагае аўтару дакладна і дарэчы выкарыстоўваць спецыяльныя тэрміны, пры гэтым тэкст не выглядае штучным, навуковым і сухім.*

што пазбавіцца непрыемных адчуванняў падчас чытання даволі складана. Непрабівальны доктарскі цынізм, а часам нават і абыякавасць проста палохаюць, дый студэнты-практыканты не пакідаюць светлага ўражання: яны не маюць ці, прынамсі, не выяўляюць адказнасці і зацікаўленасці ў будучай прафесіі, а падчас складанай аперацыі думаюць толькі пра тое, каб хутчэй сысці дадому.

Адзіны станоўчы персанаж у апавяданні — санітарка — жанчына, якая за доўгія гады працы нагледзелася ўсялякага, бруднага і страшнага, але не згубіла чалавечнасці, чуласці да пацыентак, асабліва да маладзенькіх дзяўчат, у якіх яна, магчыма, бачыць сваіх дачок альбо ўнучак. З усяго персаналу бальніцы толькі яна ставіцца да іх як да людзей, а не чарговых «хворых». Аднак вобраз галоўнай гераіні Маргарыты Данілюк, якая вырашыла зрабіць аборт, апісаны недасканала. Застаецца невядомай яе гісторыя: што падштурхнула маладую дзяўчыну на гэты ўчынак? А можа, і не яна з'яўляецца галоўнай гераіняй? Ці не адведзеная самая значная роля маладой доктарцы, якая першы год працуе акушэрам і ўпершыню робіць падобную аперацыю?

Асобна варта адзначыць стыль Мікіты Волкава. Дасведчанасць у медыцынскай сферы дапамагае аўтару дакладна выкарыстоўваць спецыяльныя тэрміны, пры гэтым тэкст не выглядае штучным, навуковым і сухім. Хоць маладому пісьменніку пакуль яшчэ не ўдаецца пазбягаць пэўных хібаў (распакоўваючы ўпакоўкі), дыялогі персанажаў — жывыя.

Самае цяжкое ў апавяданні «Плюх» — гэта ўсведамленне, якое прыходзіць пасля прачытання: гісторыя, апісаная Мікітам Волкавым, — шараговы эпізод у медыцынскай практыцы, прычым далёка не самы жудасны. Гэта прымушае задумацца.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Пад уладай Ктулху

**Чалавечая падсвядомасць дзіўная і загадкавая. Колькі жахаў, перажыванняў, балючых успамінаў утрымлівае ў сабе! А ў паяднанні з бязмежнай фантазіяй гэтая цёмная субстанцыя здольная спараджаць пачвар, прывідаў, дэманаў — самыя розныя жудасці, якімі так любіць паказытаць нервы чытач. Кожны народ мае міфалагічную спадчыну, у якой выявілася калектыўная фантазія, што ўвасобілася ў безлічы чорцікаў, злыдняў, ваўкалакаў, пярэваратняў ды іншай нечысці і выпісала такім чынам аблічча чалавечых страхаў.**

Вяртацца да міфалагічнай спадчыны можна і ў наш час, але каго здзівіш сёння русалкай ці кікімарай (хоць далёка не кожны беларус ведае адрозненні паміж міфалагічнымі істотамі свайго народа і бліжэйшых суседзяў). Свядомасць сучаснага чытача ўжо выпрацавала «імунітэт» да калісьці жахлівых істот і цяпер патрабуе знаёмства з новай містычнай хеўрай, якая здолела б трымаць чалавека ў звышнатуральным жаху перад невядомым, незразумелым, чужым для нашай рэальнасці.

Зазірнуць у вочы страху, вывудзіць з далёкіх куткоў падсвядомага ўласных монстраў і ўвасобіць іх у мастацкіх вобразах можа кожны ахвотны аматар-літаратар. Разрадка для сябе, «смакаta» для прыхільнікаў «Міфаў Ктулху» ў выглядзе літаратурнага «фастфуду», матэрыял для даследавання псіхолагаў.

Стварыць пэўнага кентаўра (верхняя частка — «Міфы», ніжняя — беларуская рэчаіснасць) спрабуе Неролі Ултарыка ў кнізе «Нявеста-пачвара», дзе змешчаны два апавяданні, аднайменнае і «Багна» (кніга апублікаваная на сайце электроннага выдавецтва BYBOOKS).

Беларускае Палессе з такога боку, мусіць, яшчэ не паказвалі! І захаваць прысмак тыпова беларускага безнадзейнага існавання, безвыходнасці, тутэйшасці ў Неролі атрымалася. Апісанне вёскі, згубленай у часе і прасторы: «Вёска стаіць на ўскрайку балота. Выгляд яна мае маркотны і бязрадасны: з дзясятак прысадзістых хат з трысняговымі стрэхамі і сляпымі вакенцамі, вакол загоны для коз; адзіная вуліца, роўная, як страла, патанае ў брудзе. На сотні вёрст наўкол — змрочныя яловыя лясы і непралазныя багнішчы», — нагадвае мележаўскія Курані. Толькі пануе тут не адвечны клопат пра хлеб надзённы і людзі зморания зусім не цяжкай сялянскай працай. Вёска ў кіпцюрах крыважэрнага Бахны і не менш страшных дэманаў, якія прыходзяць падчас лютай завеі і трымаюць сэрцы ў абдымках ледзянога жаху. Насяляюць вёску чалавечыя істоты: складана назваць інакш гэтых паўмерцвякоў, атручаных выпарэннямі з балот і хатнім трупным смуродам. Пазбаўленыя простай радасці ад сузірання сонечнага святла, пазбаўленыя мэты ў сваім нікчэмным жыцці, персанажы твора жывуць адзінай справай — падпарадкаваннем Бахне і вырошчваннем шэрых бязрогіх коз, штодзённых ахвяр міласціваму боству. Жанкі — дбайныя гаспадыні, мужчыны — вопытныя бортнікі, але не на ўласны дабрабыт скіраваны іх сілы і майстэрства — на ўзбагачэнне жраца і заспакаенне спрадвечнага страху перад богам балот. «Так было спрадвеку, так будзе да сканчэння часоў — бязмежная багна, балотны бог, кірань жрэц і бязмоўная паства». Але ж як без героя-бунтара?..

У тыповай для той мясціны сям'і ўзрастае юнак на імя Інгве. Беларускім гэтае імя ніяк не назавеш, бо запазычана яно з легендарыума Дж. Р. Р. Толкіна і на штучнай мове квенья абазначае «першы, правадыр». Першым сярод жыхароў вёскі Інгве скінуў з сябе цяжар пакоры Бахне і яго жрацу, стаў марыць пра чароўны свет за межамі багны і яловых лясоў. Спроба ўцячы апынулася марнай, таму Інгве давялося чакаць паратунку звонку. Паратунак прыйшоў у абліччы вядзьмаркі Скадзі, цёзкі скандынаўскай багіні палявання, якая была прыстойнай жанчынай, бо з ваўкалакамі не зналася — у адрозненне ад неролеўскай. Інгве пагадзіўся пайсці разам са Скадзі, бо ператварыцца пасля смерці ў жабу і поўзаць у нагах балвана яму не надта хацелася. Так юнак атрымаў месца ў кавалькадзе вядзьмаркі, чые вершнікі палохалі вяскоўцаў, імітуючы скокі ваўкалакаў.

Вершнікі Скадзі ўспрымаюцца як алюзія на «Дзікае паляванне». Яны трымаюць жыхароў у смяротным жаху і варагуюць са жрацом Бахны. Супрацьстаянне дзвюх сіл містычнай прыроды, барацьба за душы людскія паміж Скадзі і Бахнай працягваецца. Юнак Інгве не апраўдаў свайго легендарнага імені, бо з правадырскіх учынкаў за ім лічыцца толькі кінутая ў капішча Бахны паходня. Запазычаныя імёны, перанесеныя на беларускую глебу, не надаюць тэксту арыгінальнасці, а хутчэй ствараюць экзатычны вінегрэт, замінаюць цэльнаму, канцэптуальнаму ўспрыняццю мастацкага твора.

> *Аўтарка яшчэ знаходзіцца ў пошуку і ставіць эксперыменты па засяленні мастацкай прасторы апавяданняў трансфармаванымі вобразамі містычных істот.*

Змест другога апавядання адсылае нас да трагічнай гісторыі двух закаханых — Карын і Сітры — з фантастычнага горада Лемара, атручанага моравай язвай. Свет дэманаў тут прадстаўлены выхадцамі з арабскай міфалогіі — кутрубамі і гулямі. Менавіта

> *Беларускае Палессе з такога боку, мусіць, яшчэ не паказвалі. І захаваць прысмак тыпова беларускага безнадзейнага існавання, безвыходнасці, тутэйшасці ў Неролі атрымалася.*

гуль (жанчына кутрубаў) прынесла выратавальную сыроватку ўдаўцу Сітру па загадзе валадаркі кутрубаў Аліл. У якасці платы за выратаванне Сітра становіцца жаніхом гулі Скілы. Апавяданне заканчваецца тым, што выратаваны Сітра пасля лёсавызначальнай ночы з надыходам раніцы сядае за напісанне чарговай песні, якую не прызнаюць смяротныя, затое з асалодай будуць спяваць кутрубы, акампаніруючы на цытры з чалавечых костак і высушаных жылаў (фан-клуб яшчэ той!). У прынцыпе, самае цікавае і пачынаецца з сустрэчы паэта і гулі, а тут і фінал гісторыі, і застаецца толькі здагадвацца пра далейшае развіццё падзей. Хацелася б даведацца пра працяг дзівоснага адзюльтэра і больш дэталёва пазнаёміцца са спадарыняй Аліл і яе падначаленымі. Усё ж цікава, на што здольная фантазія аўтаркі ў справе спараджэння розных пачвар. Містычны бок апавядання складае інтэрнацыянальная мешаніна з арабскіх пачвар, рунаў і салярных знакаў, што саступілі месца ўсёвідушчаму воку ў горадзе Лемар (недзе ў Самеры).

Бачна, што аўтарка яшчэ ў пошуку і ставіць эксперыменты па засяленні мастацкай прасторы сваіх апавяданняў трансфармаванымі вобразамі містычных істот. Пераўзысці Лаўкрафтаўскія жахі няпроста, але калі добра ўнікнуць у нацыянальную міфалагічную спадчыну, ужыць фантазію і ўкласці ў твор пэўную ідэю, можна стварыць не кентаўра, а ўласнага непаўторнага адзінарога з беларускім каларытам.

**Віялета ВАШЧЫЛІНА**

# Выпушчу вершы з рукі

**У Азербайджане заўжды былі моцныя паэтэсы. Да прыкладу, з мінулага стагоддзя можна прыгадаць Хуршут Бану Натаван, Махсаці Гінджаві ды інш. Дык вось, Лейла ханум Аліева — яскравая прадаўжальніца гэтага слаўнага шэрагу. Яна вельмі пасяховая паэтэса, якая вылучаецца ўласным непаўторным стылем. Кажу гэта як сын паэта і як літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар. І я рады, што з яе творчасцю дзякуючы газеце «Літаратура і мастацтва» могуць пазнаёміцца і беларускія чытачы.**

**Ісфандзіяр ВАГАБЗАДЭ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол**
**Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь**


Лейла Аліева

## Мы ляцім, мы імчым, мы блукаем

*Мы ляцім, мы імчым, мы блукаем,*
*Гэтак прагнем зімою вясны.*
*Караблі ў акіянах шукаем,*
*Каб да шчасця нас неслі яны.*

*Мы ляцім, мы імчым, мы блукаем*
*У цянётах машын і людзей,*
*Толькі позірк лагодны мільгае*
*Недзе там, куды шлях не вядзе!*

*Самалёты ўзняліся, бы птушкі,*
*Праўда, птушкам у вырай — не ў рай.*
*Мы схаваем душу пад падушку —*
*Што прыснілі, згадаем наўрад!*

*У радкі выкладаю таропка,*
*Што на сэрцы: хвіліна ці менш*
*Засталася… Не стаўлю я кропак,*
*І без кропак мяне зразумей!*

*У радкі выкладаю, баюся,*
*Але гояць душу мне радкі,*
*Хай ужо не паспею, спазнюся,*
*Але выпушчу вершы з рукі!*

*Да сустрэчы, мой дружа, паверце,*
*Я развітваца так не люблю!*
*Але памяць пакіну на свеце,*
*Зернем ляжа яна — у раллю.*

*І ўзрасце мая памяць, бы краска,*
*Па-над ёю, вятрамі, гады!*
*Я згадаю, бы светлую казку,*
*Гэты дзень, гэты сум маладым.*

*І спытаю: «Навошта імчала?»*
*Ды адказу не знаю сама.*
*Выбачайце, бо часу замала,*
*Мушу бегчы… Не варта трымаць.*

## Слёзы

*Хацела заплакаць, ды слёз не было —*
*ані кроплі,*
*Хто вінаваты ў гэтым?*
*Пэўна, зіма, мароз.*
*Ціхіх прызнанняў крохкасць*
*Мне б падзяліць з паэтам,*
*Так, усур'ёз!*

*Хацела заплакаць, ды не знайшлося*
*нагоды —*
*Вось і не плачу.*
*Ведаеш, не хачу!*
*Кажуць, карысна плакаць. Мілы,*
*я з гэтым згодна!*
*Толькі ты не пабачыш*
*Слёз у мяне ўвачу!*

*Што мне жыццё падорыць,*
*толькі яму вядома.*
*Што мне мой лёс рыхтуе,*
*Ведаеш — напішы!*
*Смела гляджу наперад,*
*бо за плячыма — дом мой.*
*І не шкадую тую*
*Нітку, што тку ў душы.*

*Стомленая, іду я, нібы пустыняй злою,*
*Смага мне паліць скроні,*
*Спёка цалуе ў твар.*
*Можа, дарэмна столькі*
*я не сказала словаў,*
*Можа… Але ўсё роўна*
*Мушу я датрываць.*

*Ціша пануе ў сэрцы, ціша ў душы пануе,*
*Мы з цішынёю крочым*
*Поначы крок у крок.*
*Я яе не баюся, я яе не раўную,*
*Я ёй гляджу — у вочы,*
*У цішыні — мой зрок!*

*Кажуць мне: «Не спяшайся!*
*Перачакай, падумай!»*
*Ды не хачу чакаць я*
*І марнаваць гады.*
*Вы мяне больш не клічце,*
*бачыце, што іду я!*
*Той, хто не хоча шчасця,*
*Знойдзе сабе бяды.*

*Не сумнявацца, верыць —*
*верыць, што ўсё не марна!*
*Гэтага толькі прагну,*
*Гэтага я хачу!*
*Буду я жыць і крочыць*
*дзеля спаткання з марай,*
*Ў сне я пабачу праўду,*
*Ў сны свае палячу.*

*Грукае студзень у дзверы мае асцярожна,*
*Хутка прыйшоў ён,*
*Хаця абяцаўся пазней!*
*Дождж заімжыць па-над стылай*
*травою мурожнай.*
*Выслала б шоўкам,*
*Дый шоўку не трэба, як снег…*

*Гэты студзень вярнуўся, ён рады,*
*ён год быў самотны,*
*Кажа, доўга не бачыў,*
*А мне падаецца, што дзень.*
*Мы развіталіся дзесьці*
*на лютаўскім мосце.*
*Ён сышоў, і нябачна*
*За ім мая памяць брыдзе.*

*Вось адна я сяджу ля вакна,*
*але што тут такога?*
*Не злачынка і здраду*
*Ніколі не клікала ў дом.*
*Калі знойдзеш віну,*
*пагляджу я на тое спакойна:*
*Хай жа час мне парадзіць*
*І будзе найгоршым судом.*

*Хто махляр, хто герой, толькі час*
*пакрыёма рашае,*
*Ды анёлам не стаць,*
*Хоць рабі сабе крылы са шкла.*
*Мой анёлак мне зноў пакідае*
*няспраўджаны шанец,*
*Толькі б вартаю стаць,*
*Толькі б я азірнуцца змагла.*

*Да сустрэчы, сябры! Я сыходжу,*
*ды хутка вярнуся!*
*Так, сыходзяць усе:*
*Толькі хтосьці раней, хто пазней.*
*Я вярнуся, паверце, вярнуся сама,*
*без прымусу.*
*Каб прайсці басанож па расе,*
*Дачакайся мяне!*

*Да сустрэчы, сябры!*
*Як жа я ненавіджу расстанні!*
*Прашапчу ў цішыні:*
*«Я чакаю цябе на світанні!»*

## Калі б сталі прыступкамі зоры

*Калі б сталі прыступкамі зоры,*
*Шлях птушыны прылёг каля ног,*
*Узнялася б у неба, бы ў горы,*
*І вярнула цябе на парог.*
*Калі б вецер спяваў тую песню,*
*Што хаваю на донцы душы,*
*Ты адчуў бы мой смутак балесны*
*І пачуў, як хачу, каб ты жыў.*
*Голас твой, бы адказ на малітву,*
*Я заўжды ў сваім сэрцы нашу.*
*Калі б мог ён крыніцаю ліцца*
*У радкі, што я зараз пішу!*
*Калі б хмары мне шлях падказалі*
*Да цябе, да тваёй дабрыні,*
*Я шукаю цябе, як у замець*
*Не шукаюць у вокнах агні.*
*Вытры слёзы, мой дождж, будзе мора,*
*Але мору не трэба віры,*
*Я шукаю цябе і да зморы*
*Буду з месяцам гаварыць.*

*Так, я ведаю, ты не забыўся*
*І здалёку мяне ахінеш,*
*Я хацела б у словах згубіцца*
*І схавацца — у рукі твае.*
*Калі б толькі магла, праз рэкі*
*Збудавала б я цуда-масты,*
*Толькі б ты мяне ўсмешкаю рэдкай*
*Адарыў… Толькі б побач быў ты.*
*І галубіла б сонца, саколе,*
*Твой сунічны, твой ранішні сон.*
*Я цябе не пусціла б ніколі*
*У пустэльні чужых верасоў.*
*Я чакаю цябе, мой найлепшы,*
*Не змагу я ніколі забыць…*
*Буду слаць табе песні і вершы,*
*Буду верыць і буду любіць.*

## Крамы, крамы, рэстараны…

*Крамы, крамы, рэстараны…*
*Мне балюча,*
*Што ж рабіць…*
*Я тушу святло старанна —*
*Як не бачыш —*
*Не баліць.*

*Вось прыпынак, дачакацца б…*
*Мой аўтобус*
*Не ідзе.*
*Я хачу ва ўсім прызнацца,*
*Ды не слухаюць*
*Нідзе.*

*Свет шуміць,*
*А гэтак ціха…*
*Нават слова не чутно.*
*Хто пусціў у сэрца ліха,*
*Богу*
*Зачыніў акно.*

*Вось прыпынак, ды аўтобус*
*Не спяшаецца…*
*Таксі?*
*Гэты горад, нібы глобус,*
*Хтосьці хутка*
*Раскруціў.*

*Ззяюць вуліцы, вітрыны,*
*Так, Каляды*
*На двары.*
*Скажуць людзі, што мы трызнім,*
*А мы хочам*
*Дагарэць.*

*Крамы, крамы, рэстараны…*
*Ліхтары,*
*Агні машын.*
*Хтосьці лямпачку да рання*
*Не пакінуў*
*У душы.*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад Таццяны Сівец**

# Даляглядыі «Братэрства»

Адшукаць новае, адкрыць невядомае — нязменны творчы прынцып Алеся Карлюкевіча як краязнаўцы і даследчыка літаратуры. Такі падыход вельмі плённы і выніковы, бо дазваляе вяртаць у нацыянальнае краязнаўства імёны, якія па розных прычынах былі забытыя, а таксама ўзнаўляць тыя стасункі, краязнаўчыя, літаратурныя, літаратуразнаўчыя, што дагэтуль былі ў цені. Пацвярджэннем таму і новая кніга Алеся Карлюкевіча з сімвалічнай назвай «Братэрства», выпушчаная Выдавецкім домам «Звязда».

Гэтым разам А. Карлюкевіч разглядае стасункі літаратурныя, найперш на постсавецкай прасторы. Чытачы старэйшага ўзросту, пэўна, памятаюць, што некалі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіў альманах пад назвай «Братэрства», дзе ў перакладзе на беларускую мову друкаваліся творы пісьменнікаў савецкіх літаратур, а таксама змяшчаліся гутаркі з пісьменнікамі саюзных рэспублік, рэцэнзіі на іх творы, агляды творчасці. Але тое рабілася, канечне ж, намаганнямі многіх аўтараў. Гэтым жа разам усё робіць адзін А. Карлюкевіч.

Ягонай апантанасці, працаздольнасці, мэтанакіраванасці ў даследчыцкай рабоце застаецца па-добраму пазайздросціць. У кнізе шмат звестак, якія сведчаць пра запатрабаванасць беларускага мастацкага слова за межамі нашай краіны, пра вялікую цікавасць да нашай літаратуры, прычым не толькі ў блізкім замежжы. Гэты кірунак некалі паспяхова распрацоўваў яшчэ адзін альманах «Мастацкай літаратуры» — «Далягляды».

Так, у кнізе «Братэрства» прадстаўлена як бліжняе, так і далёкае замежжа, пра што гавораць і назвы раздзелаў: «Расія», «Азербайджан», «Аўстралія», «Балгарыя», «В'етнам», «Грузія», «Казахстан», «Кітай», «Літва», «Польшча», «Таджыкістан», «Туркменістан», «Украіна», «Чарнагорыя». У кожным багата фактаў, прыкладаў, хоць, безумоўна, яны розняцца між сабой колькасцю змешчаных матэрыялаў: стасункі з пісьменнікамі той жа Расійскай Федэрацыі куды шырэйшыя, чым, скажам, з аўтарамі аўстралійскімі.

Істотны і такі момант: А. Карлюкевіч прытрымліваецца вельмі важнага даследчыцкага прынцыпу — не паўтараць агульнавядомае. Разумеючы неабходнасць ісці сваім шляхам, гаварыць пра тое, пра што іншыя не паспелі сказаць, шукаць новы ракурс, у раздзеле «Літва» аўтар змясціў толькі гутарку з літоўскім дзіцячым пісьменнікам Яронімасам Лауцюсам, хоць, наколькі вядома, стасункі паміж літоўскай і беларускай літаратурамі вельмі даўнія. Але і гэтай гутаркі дастаткова, каб упэўніцца, што ў літоўцаў ёсць чаму павучыцца. Збольшага літоўскі пісьменнік, які вядомы і на Беларусі, разважае пра дзіцячую літаратуру, з якой, як вядома, пачынаецца любоў да літаратуры ўвогуле. Але якія гэта развагі? Такія, да якіх прыслухаецца кожны, для каго кніга — неацэнная духоўная каштоўнасць. Ці не пра тое ж гаворыць Я. Лауцюс: «Кніга, тэкст на паперы застануцца вечна. Толькі кніга будзе ў багатых, а пасля — і ў вельмі багатых. Маю на ўвазе — у людзей духоўна багатых. А такія будуць у любым грамадстве вечна. Без іх Зямля перастала б круціцца ці на ёй засталіся б жыць ужо не людзі, а нейкія мёртвыя душы. Каб гэтага не здарылася, і пішуцца вершы, казкі, творы ў музыцы і на мастацкіх палотнах».

А. Карлюкевіч здолеў знайсці цікавага субяседніка і выклікаць яго на гаворку, якая не пакідае абыякавым. Не ў апошнюю чаргу таму, што і сам субяседнік Я. Лауцюса — чалавек неабыякавы да таго, як развіваецца кніга, які ў яе будзе лёс.

Чытачы, якія застануцца незадаволенымі звесткамі, атрыманымі з кнігі «Братэрства», захочуць даведацца больш пра асоб, якіх А. Карлюкевіч зрабіў героямі сваіх артыкулаў, нарысаў, эсэ, а таму звернуцца і да іх твораў, мастацкіх ці публіцыстычных. Гэта, безумоўна, толькі на карысць краязнаўству.

**Ягор ГОНЕЎ**

# Беларускія адрасы літоўскай сталіцы




Тут жылі і працавалі Янка Купала, Змітрок Бядуля, Язэп Драздовіч. Тут размяшчаліся рэдакцыі беларускіх газет і часопісаў, працавалі беларускі музей і ўніверсітэт. Натуральна, гаворка ідзе пра колішнюю беларускую, а цяпер літоўскую сталіцу Вільнюс — Вільню, і згаданыя вышэй факты ведае, бадай, кожны. Але толькі адзінкі здольныя назваць дакладныя адрасы сучаснага Вільнюса, звязаныя з жыццём і дзейнасцю выбітных беларусаў.

Павольна шпацыруючы па старым горадзе, уважлівы госць літоўскай сталіцы пабачыць памятныя дошкі на будынках і даведаецца, што гэты дом звязаны з беларускай гісторыяй. Але зараз з'явіўся больш просты шлях вывучэння нашых адрасоў у Вільні. Так, у выдавецтве «Рыфтур» выйшаў набор паштовак «Vilnius — Вільня. Сталіца Літвы ў гісторыі Беларусі. Шпацыр па горадзе з Віктарам Корбутам». Праект ажыццёўлены з дапамогай Пасольства Літвы ў Беларусі, дабрачыннага фонду «Вяртанне», Аляксандра Гіля.

Адметна, што гэта першыя ў гісторыі Беларусі і Літвы паштоўкі на беларускай мове, прысвечаныя Вільні і яе славутасцям. Аўтар праекта — журналіст, гісторык Віктар Корбут, які ўжо некалькі гадоў займаецца даследаваннем беларускіх слядоў у Вільні, распавёў:

— Напісана вялікая колькасць даследаванняў, дзе Вільня згадваецца ў кантэксце беларускай гісторыі і культуры. Ёсць працы, прысвечаныя беларуска-літоўскім культурным сувязям (Адам Мальдзіс, Алма Лапінскене), збор вершаў і іншых літаратурных твораў, прысвечаных Вільні (укладальнікі Сяргей Панізнік, Сяргей Дубавец). Былі спробы зрабіць даведнікі, прысвечаныя беларускім мясцінам Вільні (Лявон Луцкевіч, Сяргей Харэўскі). Аднак ніхто не займаўся стварэннем адраснай кнігі, па якой можна было б, шпацыруючы вуліцамі сучаснага горада, знайсці той ці іншы будынак, дзе жылі, працавалі нашы славутыя землякі — ад часоў Скарыны да Купалы і да нашых дзён. Я як журналіст і экскурсавод па прафесіі і музеязнаўца па адукацыі ўзяў на сябе такую ношу — скласці ўніверсальную «энцыклапедыю», якая прыдасца не толькі сучаснікам, але і наступным пакаленням. Разам з картай Вільні яна будзе служыць беларусам арыенцірам вякамі. У тым выпадку, калі Вільня захавае сваё старажытнае аблічча.

Так, на падставе архіўных дакументаў, навуковай літаратуры Віктар высветліў 9 адрасоў, звязаных з жыццём і дзейнасцю відомых дзеячаў беларускай культуры ў Вільні. Лакалізаваны беларускія арганізацыі, рэдакцыі перыядычных выданняў, што калісьці тут працавалі. Аўтар паказаў таксама сувязь гэтых будынкаў з вядомымі дзеячамі літоўскай культуры, звязаных асабістымі, творчымі сувязямі з беларускімі калегамі.

— Гэты праект цікавы як навукоўцам, так і турыстам. Вядома, тым, хто ўсведамляе сябе беларусам і адчувае важнасць пазнання роднага краю, — разважае Віктар Корбут. — А вуліцы Вільні нам родныя. І тут скрыжоўваліся лёсы беларусаў з літоўцамі, палякамі, яўрэямі, немцамі — усе гэтыя народы зрабілі свой уклад у гарадскую культуру і гісторыю. Але ўнёсак літоўцаў як гаспадароў і беларусаў як найбліжэйшых суседзяў найбольшы. Каб асэнсаваць наш унёсак, трэба падсумаваць зробленае за вякі. Гэтым я цяпер і займаюся.

Камплект паштовак «Vilnius — Вільня. Сталіца Літвы ў гісторыі Беларусі. Шпацыр па горадзе з Віктарам Корбутам» нельга назваць проста сувенірам. Ён можа стаць выдатным дапаможнікам для самастойных вандровак па беларускіх і беларуска-літоўскіх мясцінах Вільні турыстам, якія наведваюць гэты горад: як беларускім, так і літоўскім. Важна, што адрасная інфармацыя на паштоўках змешчана на беларускай і літоўскай мовах. Грунтоўнасць праекту падкрэслівае і наяўнасць рэцэнзентаў і навуковых рэдактараў. Імі сталі вядомыя даследчыкі беларуска-літоўскіх культурных сувязей у Вільні Адам Мальдзіс і Арсень Ліс, экскурсавод Анатоль Варава.

Аматары шпацыраў па старой Вільні могуць спадзявацца на новыя адкрыцці. Так, Віктар Корбут прыадкрыў таямніцу:

— Цяпер выдадзены камплект паштовак — гэта толькі «дэсерт» перад асноўнай стравай — кнігай. Кнігу я пішу ўжо некалькі гадоў. Ужо некалькі выдавецтваў прапанoўвалі яе выдаць. Але я пакуль не гатовы аддаць яе ў друк, бо значная колькасць матэрыялу не апрацаваная. Аднак калі ў грамадстве будзе вялікі попыт на такую інфармацыю, я гатовы частку сабраных матэрыялаў апублікаваць у выглядзе невялікага даведніка.

*Прэзентацыя камплекта паштовак «Vilnius — Вільня. Сталіца Літвы ў гісторыі Беларусі. Шпацыр па горадзе з Віктарам Корбутам» пройдзе сёння ў Мінску, на сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Унікальны праект*

# Ткаць, як продкі

Кніга манахіні Васы (Веры Селівончык) «Беларускія народныя паясы: тэхнікі вырабу, арнамент» пабачыла свет напрыканцы мінулага года ў Выдавецкім доме «Беларуская навука». З выхаду прайшло не так шмат часу, але выданне ўжо паспела заваяваць прыхільнасць чытачоў — даследчыкаў традыцыйных рамёстваў і майстроў, а таксама прывабіла ўвагу прафесійных кніжнікаў. Сама ж аўтарка правяла дзве прэзентацыі: у роднай вёсцы Хатляны, што на Уздзеншчыне, і ў сталіцы падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. На імпрэзах манахіня Васа распавяла пра ўзнікненне цікавасці да ткання паясоў, звярнула ўвагу на адметнасці напісання даследавання і патлумачыла, чаму для вывучэння паясоў абавязкова трэба навучыцца іх рабіць.

Гісторыя новай працы Веры Селівончык пачалася яшчэ ў 1989 годзе. Тады пабачыла свет яе першае даследаванне «Беларускія народныя паясы. Дапаможнік па вырабу». Сёння з гонарам можна сцвярджаць, што па гэтай кнізе вучылася ткаць паясы ўся Мінская вобласць. Праз 20 гадоў выйшла яшчэ адна кніга — «Ткацтва на дошчачках», якая стала новым крокам у вывучэнні майстэрства вырабу паясоў. Манахіня Васа распавяла:

— Яшчэ ў 2009 годзе, калі была прэзентацыя гэтага выдання, мая сяброўка, даследчыца традыцыйнай культуры беларусаў Вольга Лабачэўская ўжо ведала, што я маю намнога больш матэрыялу, чым прадстаўлена ў выданні. Таму яна ўвесь час падштурхоўвала да распрацоўкі новай кнігі. Тады я нават з камп'ютарам не ўмела працаваць, толькі здалёк яго бачыла. Але нічога, навучылася.

Аўтарка прызналася, што даследаванне ішло доўга, ніяк не складвалася яго структура, змест, ды і ў цэлым сама кніга не фарміравалася:

— Калі сёння новыя майстры прыходзяць у рамяство ткання паясоў, то думаюць, што заўсёды так і было. Але яны памыляюцца. Да сярэдзіны 1980-х паясы можна было пабачыць адно ў экспазіцыях і фондасховішчах музеяў. Іх ткалі толькі на Слуцкай фабрыцы. Я таксама спачатку глядзела на гэта рамяство як на нешта незваротна страчанае, складанае, родам з тых часоў, калі людзі яшчэ маглі стварaць прыгажосць сваімі рукамі. Але падчас экспедыцыі на Ганцавіччыну пабачыла, што і сёння жанчыны ў вёсках ткуць паясы. Тады падумалася: калі яны могуць іх рабіць, то і мы можам навучыцца. Гэта была надзвычай цікавая з'ява, якая мяне вельмі ўразіла, захапіла і дагэтуль не адпускае.

Калі я ўзялася за вывучэнне паясоў, то адпачатку распрацоўвала адно тэарэтычную базу. Але потым зразумела, што з гэтым рамяством так нельга. Нельга паясы проста раскладваць па групах, апісваць — даследчыку трэба самому ўмець іх рабіць. Але калі пачынала вучыцца, то прыйшлo ў адчай. Неяк адпрацавала паўдня, а выткала толькі сантыметраў 15. Тады падумала: ніколі не навучуся... Падавалася, што раблю ўсё правільна, але нічога не атрымлівалася. Як бачыце, паступова навучылася і ўжо працавала над тэмай і як тэарэтык, і як практык.

Распавяла Вера Іванаўна і гісторыю няўдалага паходу ў выдавецтва. Яшчэ на этапе распрацоўкі ідэі выдання, прысвечанага беларускім народным паясам, яна завітала да галоўнага рэдактара аднаго з выдавецтваў з прапановай падрыхтоўкі праекта. Але атрымала адмову: маўляў, у чытача ёсць патрэба толькі ў комплекснай працы, дзе апроч паясоў была б прадстаўленая вышыўка, вязанне, іншыя рамёствы. Нягледзячы на такую рэакцыю, майстрыха была адпачатку ўпэўненая ў тым, што рана ці позна яе кніга выйдзе.


*Манахіня Васа прадстаўляе новую кнігу «Беларускія народныя паясы: тэхнікі вырабу, арнамент».*

— Мяне гэтая тэма вельмі захапіла. Калі ездзіла ў музеі і бачыла паясы, то замалёўвала іх. Так сабралася вялікая картатэка схем, — дзеліцца манахіня Васа. — Пашчасціла рабіць копіі паясоў, спачатку па прапанове музеяў, а потым і па ўласным жаданні: знайду новы пояс — і адразу раблю копію. Калі проста бачыш паясы, то яны падаюцца аднолькавымі, але калі пачынаеш іх капіраваць, паўтараеш усё дакладна ў адпаведнасці з арыгіналам — колькасць нітачак, узор, маштаб, колеры, — то бачыш пояс зусім па-новаму. І менавіта стварэнне копій дазволіла пабачыць многае з таго, што проста сузіраннем не зразумееш. Ёсць у гэтым нават нейкая містыка. Я заўважыла, што калі раблю копіі, то нават час ад часу даводзіцца допускаць памылкі: арыгінал патрабуе. Я нават уяўляю, хто рабіў пояс: пачатковец ці майстар. Праз рытм ткання мне нейкім чынам адкрываецца, на якім узроўні было майстэрства выканаўцы.

Адметна, што многія паясы былі вытканыя майстрыхай менавіта для напісання кнігі. Былі такія тэхнікі, калі Вера Іванаўна прыкладна ведала прынцып выканання іх узору, але дакладна не ўяўляла методыку вырабу цэлага поясу, да прыкладу, даўжынёй 3 метры. У пэўнай меры падрыхтоўка новага выдання стала спосабам сістэматызаваць напрацоўкі даследчыцы. Сама манахіня Васа жартуе:

— Калі раней для таго, каб паглядзець апісанне пэўнай тэхнікі, мне патрэбна было доўга шукаць звесткі ў сваіх запісах, картках, то цяпер усё вельмі хутка можна знайсці ў кнізе. Адметна, што ў гэтай працы я засяродзіла ўвагу менавіта на тым, як зрабіць пояс, як атрымаць патрэбны арнамент. Тут няма этнаграфічнага аспекту, ёсць толькі асобныя намёкі на тое, якія тэхнікі ткання паясоў былі распаўсюджаныя ў якіх рэгіёнах. Больш за тое, семантыку арнаменту, яго значэнне я таксама не закранаю. Гэта асобная глыбокая тэма, якую трэба сур'ёзна даследаваць. І ў цэлым, за гады працы я зразумела: чым больш працуеш з паясамі, тым больш іх сакрэтаў раскрываеш.

Думаецца, манахіню Васу чакае яшчэ шмат адкрыццяў, а чытачоў — адметных даследаванняў.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Багема оперы

**І Міжнародны гала-канцэрт «Хварастоўскі і сябры», арганізаваны кампаніяй «Берын Арт Менеджмент», адбыўся ў Мінску на мінулым тыдні.**



Фестывалі імя народнага артыста Расіі Дзмітрыя Хварастоўскага ўжо 10 гадоў з вялікім поспехам праходзяць у Маскве і Санкт-Пецярбургу. У іх бралі ўдзел амерыканская оперная спявачка Рэнэ Флемінг, нямецкі драматычны тэнар Ёнас Каўфман, расійская оперная спявачка Кацярына Сюрына, мексіканскі тэнар Рамон Варгас, расійская оперная спявачка Аіда Гарыфуліна ды многія іншыя.

Ідэя мерапрыемства — аб'яднаць розныя жанры класічнага мастацтва — інструментальную музыку, оперу і балет, каб зрабіць іх даступнымі для самай шырокай аўдыторыі.

У межах серыі канцэртаў на лепшых пляцоўках Беларусі адбыліся выступленні выдатнага расійскага, бельгійскага, брытанскага піяніста Барыса Бярозаўскага, Нацыянальнага акадэмічнага Санкт-Пецярбургскага тэатра балета Барыса Эйфмана і, безумоўна, сольны канцэрт Дзмітрыя Хварастоўскага ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра пры ўдзеле салістак Метраполітэн Опера Нью-Ёрк Марыны і Мірыям Коста-Джэксан, заслужанай артысткі Беларусі Аксаны Волкавай.

Дарэчы, 5 сакавіка на сцэне мінскага Палаца Рэспублікі народны артыст Расіі Дзмітрый Хварастоўскі выступаў з сёстрамі Коста-Джэксан упершыню. Знакамітыя спявачкі вучыліся опернаму вакалу ў лепшых майстроў ЗША і Італіі. Мірыям пачала займацца музыкай з 12 гадоў, з'яўляецца заснавальніцай студыі Swan Studios. Марына Коста-Джэксан — рэзідэнт Амерыканскай Акадэміі вакальнага мастацтва. У яе рэпертуары партыі Лізы з «Пікавай дамы» Вердзі, а таксама Амеліі з «Un ballo di maschera», Мімі з «Багемы» Пучыні і Маргарыты з «Фаўста» Гюно.

Дырыжыраваў сімфанічным аркестрам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра лепшы вакальны дырыжор сучаснасці па прызнанні часопіса «Opera News» заслужаны артыст Расіі маэстра Канстанцін Арбелян.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Музычны брэнд Беларусі

**Унікальны канцэрт «Залатыя старонкі кантавай культуры Беларусі XVII — XVIII стагоддзяў» адбыўся ў камернай зале імя Л. П. Александроўскай Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.**

Калі сёння, у пачатку ХХІ стагоддзя, мы вяртаемся думкамі ў мінулае, то разумеем, што беларускае музычнае мастацтва ў панараме часу вымалёўваецца не пункцірна. Гэта натуральны, як у пераемнасці традыцый, так і ў творчым наватарстве, адзіны культурна-гістарычны працэс. Ён зараджаецца з першых вядомых нам беларускіх помнікаў прафесійнай (пераважна царкоўнай) музыкі і з кожным стагоддзем падаўжае сваё пастульнае развіццё.

Падчас імпрэзы прагучалі лепшыя творы «залатога» перыяду кантавай культуры Беларусі, якія, дзякуючы даследчыкам беларускай музыкі і сучасным музыкам, атрымалі новае нараджэнне.

У першым аддзяленні канцэрта былі прадстаўлены «Псальмы Давідавы» ў перакладах Сімяона Полацкага з музыкай ананімных аўтараў у апрацоўках К. Шарова. Таксама госці вечара пачулі фрагменты араторыі Ігара Хадоскі «Жальбы», у аснову якой пакладзены жалобныя галашэнні на распяцце Ісуса Хрыста кампазітараў XVII — XVIII стагоддзяў: А. Германоўскага, І. Катовіча і інш. Лібрэта складзена В. Мархель, В. Сёмухай і Р. Барадуліным па тэкстах Святога Евангелля ад Іаана, Святога Евангелля ад Матфея, Святога Евангелля ад Лукі.

У другім аддзяленні публіку чакала сустрэча з вакальнай сюітай у апрацоўках К. Шарова, у аснову якой пакладзены «Полацкі сшытак» (музыка) і «Аршанскі сшытак» (словы) — кампазіцыі ананімных аўтараў XVI — XVII стагоддзяў. Адзін з самых папулярных твораў беларускай музычнай спадчыны — «Полацкі сшытак» — успрымаецца беларускім грамадствам як своеасаблівы музычны брэнд Беларусі XVII стагоддзя. Таксама госці вечара пачулі фрагменты зборніка «Куранты» ананімных аўтараў XVII — XVIII стагоддзяў — зборніка беларускай, польскай і ўкраінскай музыкі, знойдзенага ў Салтыкоўскай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга.

Вядучы вечара і рэжысёр — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік «Беларускай капэлы», знакаміты даследчык беларускай музычнай культуры Віктар Скорабагатаў.

Выканаўцы — вядучыя салісты Беларускай оперы лаўрэаты міжнародных і нацыянальных конкурсаў Юрый Гарадзецкі, Алена Золава, Наталля Акініна, Сяргей Лазарэвіч. Партыя фартэпіяна — лаўрэат міжнароднага фестывалю Ларыса Церахава. Сола трубы — Дзмітрый Гарбачук.

**Ганна ШЫМУК**

# Урокі «харавой матулі»

Штодзённыя заняткі ў гэтым класе — не стандартны ўрок «ад званка да званка». Яны могуць доўжыцца і дзве, і чатыры гадзіны. А што тут дзіўнага? Захапіўшыся творчасцю, дзеці разам са сваёю настаўніцай проста забываюцца на час. Бацькоў жа такая завядзёнка толькі цешыць. За сыноў-гарэзаў, якімі апякуецца «харавая матуля», можна не хвалявацца.

Галіна Ур'еўская-Еўсюкова працуе ў Светлагорскай дзіцячай школе мастацтваў два дзясяткі гадоў. Палову з іх кіруе ўзорным хорам хлопчыкаў і юнакоў, якому ўлетку 2006 года рашэннем калегіі Міністэрства культуры Беларусі нададзена ганаровае званне «ўзорны аматарскі калектыў».

Для сваіх непаседлівых гадаванцаў Галіна Львоўна не проста настаўнік, а і сапраўды чалавек родны, добры дарадца ў розных сітуацыях. Вучыць хлапчукоў не толькі суладна спяваць, але і жыць сугучна з навакольным светам. Натхнёны музыкант і педагог-псіхолаг, яна ўмее неўпрыкмет ператварыць харавыя заняткі ва ўрокі адданай і цярплівай працы, самакантролю і волі да перамог, адказнасці за сябе і за іншых. Юныя артысты прычыняюцца да асноў вакалу і дырыжыравання, сальфеджыа і міжнароднай музычнай тэрміналогіі, пашыраюць кругагляд. Пачынаюць разумець, як шмат, і не толькі ў жыцці творчым, значаць дысцыпліна і загартоўка характару, уменне сачыць за эмоцыямі ды манерамі. А яшчэ — адданасць справе і сябрам, бо ўсе разам працуюць на агульны вынік.

Дырэктар школы Наталля Зыкун падкрэслівае: і ў асяроддзі калег, і ў сем'ях школьнікаў паважаюць Галіну Львоўну за добрасумленную працу, высокі прафесіяналізм і неабыякавасць да лёсу хлапчукоў-харыстаў. Яна творча падыходзіць да правядзення бацькоўскіх сходаў, супрацоўнічае з бацькоўскім камітэтам і апякунскім саветам хору... Словам, нездарма станавілася пераможцай раённага конкурсу прафесійнага майстэрства сярод настаўнікаў ДШМ «Настаўнік года», перамагала на аналагічным абласным конкурсе ў намінацыі «Харавы клас».

Галіна Львоўна — чалавек вельмі актыўны. Яна ўваходзіць у Асацыяцыю кіраўнікоў нароў хлопчыкаў і юнакоў Беларускага саюза музычных дзеячаў, вызначылася і як арганізатар гастрольных тураў харавых калектываў, І Міжнароднага фестывалю дзіцячых і юнацкіх хароў «Спеўны Светлагорск» з удзелам прадстаўнікоў Беларусі, Літвы і Украіны, каляднага ды велікоднага фэстаў, што ладзяцца ў школе мастацтваў. І прапанавала ўласную адмысловую метадычную праграму для харавога аддзялення, якая сёння дапамагае ў навучальна-выхаваўчай працы настаўнікам Светлагорскай ДШМ, іх калегам на Гомельшчыне дый у некаторых роднасных установах Літвы і Расіі.

А што ж сам хор? Пад кіраўніцтвам Ур'еўскай-Еўсюковай сумесна з канцэртмайстрам Ірынай Чарнаіваненкай ён шмат чаго дасягнуў і заахвочваўся Гранд-прэміяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. З мастацтвам светлагорскіх вакалістаў знаёмяць чатыры кампакт-дыскі. Улюбёнцы землякоў-беларусаў і асабліва роднага горада паспяхова выступалі ў Польшчы, Расіі, Швейцарыі, адзначаны граматамі, дыпломамі рэспубліканскіх ды міжнародных конкурсаў і фэстаў. Галасістыя хлапчукі сталі лаўрэатамі ІІІ прэміі міжнароднага харавога фестывалю-конкурсу «Песни над Невой» у Санкт-Пецярбургу, атрымалі дыплом ІІ ступені на XXVIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, дыплом Х Мінскага міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў, прывезлі дыплом І катэгорыі з міжнароднага фэсту «Юнацтва планеты» ў Цюрыху. Па выніках І Міжнароднага фестывалю дзіцячых і юнацкіх хароў «Спеўны Светлагорск» ім уручылі ўзнагароду «За музычнасць, складанасць рэпертуару і самае яркае выступленне». А пасля поспеху беларускіх гасцей падчас Асамблеі хароў Расіі «Спяваем для свету», праведзенай у чарнаморскім Туапсэ, як лаўрэатаў І прэміі мінулай вясною іх запрасілі ў Сочы — для ўдзелу ў культурнай праграме Паралімпійскіх Гульняў.

Мінулы год прынёс ім Гран-пры Рэспубліканскага конкурсу вакальна-харавых калектываў «Юныя таленты Беларусі», падзячны ліст Свята-Елісавецінскага манастыра за выступленне на адкрыцці фестывалю праваслаўнай культуры «Кладезь». Удзел выхаванцаў «харавой матулі» ў рэгіянальным культурна-асветным праекце «Каляднае сузор'е фальклору» адзначаны падзякай за высокае выканальніцкае майстэрства, захаванне і развіццё народнай культуры. Год 2015-ы пачаўся са свята ў роднай школе — традыцыйным фэстам духоўнай музыкі «Даруй нам Мір».

Далейшая «дарожная мапа»? Рэгіянальны фестываль-конкурс дзіцячай вакальна-харавой творчасці ў Мазыры «Спеўная вясёлка». Рэспубліканскі фестываль хароў хлопчыкаў і юнакоў у Мінску, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Міжнародны адкрыты конкурсны дзіцяча-юнацкі музычны інтэрнэт-праект краін — пераможцаў у Вялікай Айчыннай вайне «Мы за мір». Велікодная імпрэза ў красавіку. Чарада канцэртаў, прымеркаваных да знамянальных дат календара, — для светлагорцаў, у тым ліку працаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў.

Хор, якім кіруе Галіна Ур'еўская-Еўсюкова, — гэта 35 хлопчыкаў і юнакоў. У складзе ўзорнага калектыву (усе выпускнікі якога, між іншым, — выдатнікі школы) створаны моладзевы вакальны ансамбль, ужо неаднаразова ўвянчаны конкурснымі лаўрамі. У Год моладзі гэты ансамбль з 12 юнакоў рыхтуе самастойную праграму: беларускую народную песню ў апрацоўцы Анатоля Варлахіна «Ой, сівы конь бяжыць», мексіканскую «Кукарачу», песні Рыгора Панамарэнкі на вершы Сяргея Ясеніна «Отговорила роща...» і Веньяміна Баснера на словы Міхаіла Матусоўскага «На безымянной высоте», літургічны кант Рамуальда Твардоўскага «Хвалите Имя Господне».

Працуе над папаўненнем рэпертуару і хор. Сярод узораў сусветнай класікі, песеннага фальклору, сучасных акадэмічных і эстрадных партытур, музыкі рэлігійнага зместу з'явяцца «Лявоніха» ў арыгінальнай апрацоўцы Алены Атрашкевіч, апрацаваны Уладзімірам Глушаковым народны шэдэўр «Купала на Івана», легендарная «Катюша» Мацвея Блантэра. Новая праграма ў выкананні юных галасоў загучыць яскрава і свежа.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Сведчыць Метрыка



Малюнак Алесі Ісы

**Ці не ва ўсіх падручніках па гісторыі Беларусі ёсць выраз пра тое, што пасля Грунвальдскай бітвы на нашы землі 500 год, аж да Першай сусветнай вайны, не ступала нага нямецкага агрэсара.**

Але гэта далёка не так. Сапраўды, маштабных ваенных дзеянняў не адзначалася, але напады лівонскіх рыцараў на пamежныя землі Вялікага Княства Літоўскага працягваліся не толькі ў XV, але нават і ў XVI стагоддзях. У першую чаргу цярпелі тэрыторыі, на якіх размешчаны сучасныя Браслаўскі, Мёрскі і Верхнядзвінскі раёны. Зазірнём у Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага за 1541 — 1542 гады: апісанне дэмаркацыі мяжы паміж ВКЛ і Лівонскім ордэнам у Браслаўскім павеце.

Адначасова камісары Іван Кміціч-Сакаловіч і Іван Корсак запісвалі скаргі мясцовых жыхароў на рабаўніцкія набегі лівонцаў. З дакументаў бачна, што лівонскія рыцары здзяйснялі драпежніцкія рэйды падчас войнаў ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай (1512 — 1522, 1534 — 1537). Шляхецкае войска знаходзілася тады на ўсходзе краіны і таму не магло абараніць заходнія рубяжы. У нашай мясцовасці асабліва цярпелі землі, якія належалі Юрыю Масальскаму, гаспадару Друі. Адно з яго ўладанняў — маёнтак Панізова.

Так, у 1512 г. контур неўгіньскі Рудый (контур — кіраўнік адміністрацыйнай акругі ў немцаў, у гэтым выпадку — Дынабургскай) забраў з яго клеці белага палатна 100 лакцей, тры кажухі, чатыры коні, пяць кароў, два валы, 30 свіней, шэсць авечак і г. д.

У наступны раз, напаўшы на двор Юргеля і яго брата Мікалая, рабаўнікі забралі ўвесь статак (50 валоў, 70 кароў, 40 авечак, 16 коней), 15 кашуль, 17 намітак (жаночы галаўны ўбор), чатыры кажухі, тры сярмягі, палатна 100 лакцей і шмат іншых рэчаў. У трэці раз (усе напады здзейснены на працягу аднаго года) — пяць коней, двух валоў, 40 мужчынскіх і 60 жаночых кашуль, 50 намітак, 30 ручнікоў, 80 абрусаў… Бацьку гаспадара забілі да смерці. У тым жа годзе контур Руды ў чарговы раз напаў на маёнтак Панізова, захапіў увесь статак і рабаваў са сваімі памагатымі ўсё, што трапляла пад рукі, а сам маёнтак спалілі.

Самае страшнае было, калі падчас нападаў немцы не толькі рабавалі маёмасць, але і забівалі людзей. У 1512 г. іншаземцы на чале з контурам Рудым на двары Снешкі і яго пляменніка забралі не толькі ўвесь статак, але і спалілі маёнтак, забілі яго гаспадароў — усяго загінула 25 чалавек. Тыя ж немцы наехалі на двор княжага чалавека па імені Борцька і абрабавалі яго гаспадарку. Неаднойчы цярпеў ад нападаў крыжакоў і двор князя Масальскага Юргеля.

У наступнай скарзе Юрыя Масальскага сказана, што нямецкі рыцар Вінкель Ганусовіч з Дынабурга (цяпер Даўгаўпілс) з дапамогай контура Дынабургскага Віліма напаў на маёнтак князя Панізова, і яны многа шкоды зрабілі, а яго людзей пабілі.

Гэта толькі некалькі прыкладаў з Метрыкі, звязаных з нашай мясцовасцю. Такія ж жудасныя рэчы назіраліся і на іншых памежных тэрыторыях, дзе таксама лівонцы рабавалі, забівалі, бралі ў палон. Нам невядома, які быў вынік гэтых скаргаў. Невядома, ці аплацілі немцы пазначаныя ў скаргах страты. Трэба таксама ўлічваць той факт, што панесеныя страты пацярпеўшыя завышалі, тым больш калі некаторым падзеям дзясяткі год. Але ўсё роўна дакумент з'яўляецца важнай крыніцай інфармацыі пра характар маёмасці і яе колькасць у дробнай і сярэдняй шляхты першай паловы XVI ст.

Паперы ўтрымліваюць звесткі і пра развіццё гандлю з замежнымі краінамі. Каб прывезці тавары з Англіі або Францыі, трэба і за мяжу было вывозіць ды прадаваць. Такім чынам, гістарычныя крыніцы сведчаць пра вялікую каштоўнасць у тыя часы жалезных вырабаў, бо заўсёды з іншымі, у тым ліку і з дарагімі замежнымі таварамі, пералічваюцца сякеры, косы ды сярпы.

**Вітольд ЕРМАЛЁНАК,**
**кіраўнік музея друку і кнігі**
**СШ № 3 г. Мёры**

*Юбілеі*

# Салдацкае брацтва

Ён родам з вёскі Сялец Бярозаўскага раёна, якая дала беларускай літаратуры трох выбітных пісьменнікаў: яго, празаіка Віктара Супрунчука, паэта Алеся Разанава і драматурга Міколу Арахоўскага. З Віктарам мне выпала сустракацца ў Брэсце і Мінску. Адзін з першых ён павіншаваў мяне з уступленнем у Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Адпраўляючыся на юбілей да свайго знаёмага Пятра Федасюка, я не мог здагадвацца, што ў гасцях пачую нешта новае пра Віктара. На імяніны з вёскі Дрэбск Лунінецкага раёна прыехаў брат Пятровай жонкі Хведар Комар.

Неяк у перапынку застолля мы з Хведарам засталіся ўдвух, і Комар пацікавіўся, ці ведаю я беларускага пісьменніка Віктара Супрунчука. Я адказаў, што выпадала сустракацца.

— А я з ім у арміі разам служыў, — прызнаўся Хведар і пачаў расказваць падзеі саракагадовай даўнасці.

Хлопцы служылі ў Ерэване ў будаўнічым батальёне. Хведар скончыў Ляхавіцкі ветэрынарны тэхнікум, а Віктар — Белаазёрскае будаўнічае вучылішча № 82 электратэхнікі. І ў войску ён быў электрыкам, меў свой кабінет, так што хлопцы, вярнуўшыся са звальнення ў горад і захапіўшы пляшку віна, маглі «адпачыць» у тым пакоі.

Аднойчы Віктар і Хведар разам атрымалі звальненне ў горад. Дзень быў гарачы, і хлопцы на ўскрайку Ерэвана, убачыўшы невялічкае азярцо, надумалі купацца. Схавалі вопратку ў прыбярэжным лазовым кусце. Нікога побач, здавалася, не было. Колькі здзіўлення: калі салдаты выбраліся на бераг, недалічыліся аднаго рамяня і наручнага гадзінніка!

Больш за ўсё Хведару было шкада гадзінніка. Пасля заканчэння тэхнікума ён паспеў крыху папрацаваць у Пінскім раёне. У гаспадарцы, праводзячы хлопца ў войска, уручылі гадзіннік з памятным надпісам. І вось ён бы ў ваду кануў…

Віктар ужо ў тыя гады спрабаваў пісаць вершы. Байцы трохі пасмейваліся з яго занятку, але хлопец не звяртаў на гэта ўвагі.

Са службы Віктар і Хведар ехалі разам. Усю ноч прагаварылі, думалі пра будучыню. Віктар бачыў сябе пісьменнікам. У Баранавічах яны развіталіся: Хведар паехаў у Лунінец, а Віктар — у Бярозу. Абмяняліся адрасамі.

Сустрэліся ў Дрэбску на Луніншчыне гадоў праз дзесяць. Віктар скончыў факультэт журналістыкі БДУ і працаваў у «Сельской газете». Драбляне паслалі ліст у Мінск, што іх вымушаюць няправільна аплачваць установку газавых балонаў. Праверыць скаргу накіравалі карэспандэнта, якім аказаўся Віктар Супрунчук.

Сустрэлі сталічнага карэспандэнта як належна і павезлі ў Дрэбск. Віктар успомніў сябра салдацкай пары і спытаў пра яго. Аказалася, што жыве ён у роднай вёсцы і загадвае фермай.

Прыехалі на ферму. Адчыніліся дзверы, і Супрунчук быццам снег на галаву з'явіўся ў праёме, без меры здзівіўшы сябра. Толькі праз хвіліну той змог вымкнуць:

— Віця!

— Федзя!

Сябры абняліся.

Супрунчук разабраўся ў пытанні, і яго хацелі завезці ў Лунінец, дзе ў гасцініцы чакаў забраніраваны нумар, але Віктар катэгарычна адмовіўся:

— Не, я буду начаваць у армейскага сябра!

Комары толькі закончылі будаваць дом і жылі небагата, але бульба і сала, іншыя няхітрыя сялянскія прысмакі знайшліся. Віктар падхвальваў сала:

— Федзя, родным домам запахла! Быццам у сваім Сяльцы пабываў. Так саліць сала умеюць толькі мая мама і вы!

Развітваючыся, Віктар пакінуў сталічны адрас і клікаў Хведара ў госці. Аднойчы таму выпала ехаць у Мінск, збіраўся наведаць сябра, ды жонка адгаварыла:

— Не трэба. Ён такі чалавек, кніжкі піша, а ты хто? Твой прыход можа толькі нашкодзіць яму…

— Дурная баба, чым жа мой прыход мог нашкодзіць Віктару?! — разважліва сказаў Хведар. — Але тады паслухаў яе, не зайшоў, а цяпер хвараю, не даеду ў Мінск, — і ўздыхнуў. — Знаю, як бы ён мяне сустрэў, як бы частаваў! Бо салдацкае брацтва не гіне…

А мне ў гэтую хвіліну прыгадаліся назвы некаторых Віктаравых кніг: «Недзе баліць ля сэрца», «З плоці і крыві», «Жывеш толькі раз»… Успомніў, як Віктар вітаў мяне з уступленнем у Саюз:

— Віншую, землячок! Няхай табе здаровіцца і добра пішацца! Каб выходзілі новыя кнігі, а ўхаце быў заўсёды лад…

Таго ж жадаю і табе, Віктар, у твае 65-я ўгодкі, а заадно і творчага даўгалецця.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# І мелодыяй, і словам

**Вечар духоўнай музыкі і паэзіі адбыўся ў актавай зале Гродзенскага дзяржаўнага музычнага каледжа. Імпрэза, прымеркаваная да Міжнароднага дня роднай мовы, сабрала гродзенскіх паэтаў, якія пішуць на беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай мовах. Але паяднала ўсіх... мова музыкі!**

Ініцыятарам канцэрта духоўнага мастацтва ўжо ў трэці раз выступіў гродзенскі кампазітар Аляксандр Маркелаў. Маэстра віртуозна выконваў на электраргане пранікнёныя лірычныя п'есы ўласнага сачынення.

Творы ў нятыповым для музыкі жанры малітвы чаргаваліся з дэкламацыяй вершаў.

Тэмай духоўнасці працята творчасць старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Людмілы Кебіч. Маці Божай і памяці Яна Паўла II прысвяціла сваю творчасць польская паэтэса з Гродна Крысціна Шаматовіч. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі паэтэса Ала Нікіпорчык прачытала вершы па-беларуску і па-руску.

Украінскі паэт Рыгор Гармаш распавёў, што ў яго доме заміраточыла ікона. Усё, што з гэтым звязана, а таксама іншыя сюжэты з жыцця, дапамагае асэнсаваць яго паэзія. Але галоўны матыў творчасці Р. Гармаша — малітва за лёс роднага народа і краіны.

**Дзмітрый РАДЗІВОНЧЫК**

# Калі душа спявае



Калісьці ўскраек Мінска ў раёне, дзе ў вайну немцы расстрэльвалі хворых, абыходзілі з-за бальніц і інтэрнатаў, называючы месцам смутку і болю. Але 16 гадоў таму Навінкі змяніліся. Пад духоўным кіраўніцтвам айца Андрэя Лемяшонка пачаў ствараіца Свята-Елісавецінскі манастыр…

Гэта адзіны праваслаўны манастыр у беларускай сталіцы. Яго насельнікі (больш як 100 чалавек) дзень і ноч твораць малітву за ўсіх нас.

Свята-Елісавецінскі манастыр — гэта не толькі богаслужэнні і храмы (хаця, вядома ж, гэта найпершае), але і сацыяльнае служэнне: тут існуе больш як сорак майстэрняў, якія захоўваюць праваслаўныя традыцыі, ладзяцца шматлікія фестывалі і выстаўкі, працуюць студыі, дзе ствараюць мультфільмы, аўдыяспектаклі, кампакт-дыскі з уласнымі песнапеннямі і пропаведзямі, дакументальныя і мастацкія стужкі. Ва ўласным выдавецтве выпускаюцца не толькі малітвасловы і царкоўныя кнігі, але і мастацкая літаратура, выданні для дзяцей, якія атрымліваюць дыпломы на вядомых кніжных форумах…

Перш за ўсё хацелася распавесці пра царкоўныя песнапенні. У манастыры існуюць чатыры хоры: дзіцячы, брацкі, сястрынскі і святочны. Усе яны ўдзельнічаюць у богаслужэннях, зрэдку выступаюць у канцэртных залах, выязджаюць на гастролі. Старэйшы рэгент манастыра, вядомы ў Беларусі і за яе межамі царкоўны кампазітар манахіня Іуліянія (Дзянісава), лічыць, што, калі ў людзей ёсць патрэба слухаць праваслаўную музыку са сцэны і ёсць благаславенне на гэта, харысты павінны задавальняць жаданні слухача, тым самым даносячы слова Божае людзям.

Матушка Іуліянія прыйшла ў манастыр у 2006 годзе. Дагэтуль яна была рэгентам Свята-Петра-Паўлаўскага сабора Мінска. Хор пачаў ствараіца там, а затым услед за рэгентам перайшоў на кліpас манастыра. У калектыве прафесійныя музыканты. У нядзельныя ды святочныя дні харысты збіраюцца ў манастыры на Боскую літургію. Святочны хор неаднаразова выступаў у Санкт-Пецярбургу на фестывалі «Велікапосныя канцэрты», браў удзел і ў Міжнародным фестывалі праваслаўных песнапенняў «Дзяржаўны глас», які з 2010 года праходзіць у беларускай сталіцы.

На сястрынскай нарадзе сястра Фацінія распавяла ўнікальную гісторыю гэтага песеннага форуму. Неяк у манастырскую Паломніцкую службу звярнуліся прыхаджане мінскага храма святой Сафіі Слуцкай, што планавалі прыехаць у манастыр на экскурсію. Гасцей сустрэла старшая сястра паломніцкай службы Фацінія Іеропес. Высветлілася, што сярод паломнікаў у асноўным харысты. Храм у гонар іконы Божай Маці «Дзяржаўная» ўразіў іх не толькі візантыйскай прыгажосцю, але і акустыкай. Папрасілі дазволу заспяваць, пасля чаго засведчылі: песнапенні ў гэтым храме павінны гучаць не толькі падчас богаслужэнняў, але і на канцэртах.

Бацюшка-духаўнік блаславіў матушку Іуліянію (тады яшчэ інакіню Ірыну) сабраць у велікодныя дні ў храме сяброў і паспяваць. Першы канцэрт атрымаўся сямейным. Праўда, прыйшло столькі слухачоў, што вырашылі не спыняцца. Мітрапаліт Філарэт блаславіў праводзіць свята праваслаўных песнапенняў тры разы на год: у калядныя, велікодныя і пакроўскія дні. З удзелам у «Дзяржаўным гласе» сербскага хору Саборнага храма Архістраціга Міхаіла фестываль стаў лічыцца міжнародным. У ім ужо ўдзельнічалі 39 калектываў з Беларусі, Расіі, Украіны і Сербіі.

— Наш фестываль не з'яўляецца конкурсам, — распавядае манахіня Іуліянія. — У яго ўнікальны фармат: пяць харавых калектываў — царкоўных і свецкіх, прафесійных і аматарскіх — выступаюць у храме перад прыхаджанамі і гасцямі. Фестываль (дарэчы, дабрачынны) праходзіць у суботу. На наступны дзень аднаму з калектываў даецца магчымасць удзельнічаць у Боскай літургіі. Як правіла, удзельнікі фэсту — дзіцячы хор, жаночы альбо мужчынскі і тры змешаныя (напрыклад, студэнцкі, свецкі прафесійны і прыходскі). Што да рэпертуару, то яго складаюць любыя праваслаўныя песнапенні і песні, сугучныя праваслаўнай культуры.

І манахіня Іуліянія, і арганізацыйны камітэт фестывалю ўпэўнены, што праводзіць такія святы трэба. Кожны новы канцэрт збірае ўсё больш слухачоў.

— Прыходзяць і з іншых храмаў, і далёкія ад царкоўнага жыцця, — працягвае аповед матушка. — Магчыма, гэта дапаможа ім знайсці Бога. Я ведаю пра такія выпадкі, калі пасля канцэрта духоўнай музыкі людзі пачыналі жыць царкоўным жыццём. Адзін хлопец паступіў у духоўную семінарыю. А яшчэ мы імкнёмся паказаць, як скіроўваць таленты, дадзеныя нам Богам. Не трэба іх хаваць у зямлю. Трэба несці людзям.

Новы фестываль не калькуе папярэдні. У кожнага канцэрта сваё гучанне, свая тэматыка. На фестывалі можна паслухаць песнапенні розных распеваў: валаамскага, візантыйскага, грэчаскага, знаменнага, балгарскага… А ў кастрычніку 2011 года ў манастыр прыязджаў ансамбль старажытнарускай музыкі «Знаменне», які спявае не па нотах, а па круках. Калектыў створаны ў 1994 годзе на кафедры старажытнарускага спеўнага мастацтва Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі. Рэпертуар складаюць старажытнарускія напевы — найбагацейшы пласт духоўнай музыкі. Вядучы прынцып спеўнай практыкі — выкананне песнапенняў па старажытных аўтэнтычных натацыях, якія адлюстроўваюць меладычнае дыханне і найтанчэйшыя асаблівасці старажытных мелодый.

А мінулы фестывальны год упершыню пачаўся не ў манастыры, а ў канцэртнай зале «Мінск», дзе адбыўся канцэрт двух хароў — святочнага хору Свята-Елісавецінскага манастыра, якім кіруе манахіня Іуліянія (Дзянісава), і сербскага «Мэлодзі» (кіраўнік — Дзіўна Любаевіч).

Д. Любаевіч вырасла ў набожнай сербскай сям'і. З дзесяці гадоў вывучала царкоўныя песнапенні ў бялградскім манастыры Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы. Затым скончыла музычную школу «Мокран'яц» у Белградзе і музычную акадэмію ў горадзе Наві-Сад. Хор «Мэлодзі», які ўдзельнічае ў богаслужэннях і дае канцэрты па ўсім свеце, створыла ў 1991-м. Сёння на рахунку калектыву больш як 450 выступленняў. Беларусь ён наведаў упершыню, ад нашай краіны і публікі артысты ў захапленні.

— Парасткі, што паказаліся пятнаццаць гадоў таму, пачынаюць прыносіць плады, — гаворыць сястра Фацінія Іеропес. — Сёння кожны можа адчуць прыгажосць праваслаўнага жыцця, далучыцца да крыніцы песнапенняў і наталіць смагу душы.

**Зміцер АРЦЮХ,**
**здымак прадастаўлены**
**рэдакцыяй сайта obitel-minsk.by**

# Дню Перамогі прысвячаецца

**Да 70-годдзя Вялікай Перамогі актыўна рыхтуюцца Ваенна-навуковае таварыства пры Цэнтральным Доме афіцэраў і сталічная бібліятэка № 1 імя Л. Талстога.**

У бібліятэцы разгарнулася выстаўка кніг пра Вялікую Айчынную вайну і сямейных рэліквій, сабраных супрацоўнікамі кніжніцы. Сярод экспанатаў — лісты і баявыя ўзнагароды салдат Перамогі. Тут адбылася таксама прэзентацыя кніг сяброў Ваенна-навуковага таварыства — калектыўнага зборніка ўспамінаў удзельнікаў ВАВ «Байцы ўспамінаюць дарогі вайны» і «Маршал Г. К. Жукаў на беларускім п'едэстале» Уладзіміра Аванесава, на якую завіталі навучэнцы Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. А. Кедышкі.

У прэзентацыі ўдзельнічалі прадстаўнікі Федэральнага агенцтва па справах СНД, суайчыннікаў, якія жывуць за мяжой, і па міжнародным гуманітарным супрацоўніцтве (Рассупрацоўніцтва). Галоўны спецыяліст Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь — Расійскага цэнтра навукі і культуры ў Мінску Наталля Аўралева распавяла прысутным пра ўмацаванне сяброўства і сувязі народаў Беларусі і Расіі.

Колішняя юная партызанка Наталля Чыжова сёння працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Падчас прэзентацыі яна распавяла пра дзейнасць фашыстаў у акупаваным Мінску. У гады вайны Н. Чыжова разам з маці, сувязной 1-й Мінскай партызанскай брыгады Лідзіяй Пятрэнка, выконвала баявыя заданні, трымала сувязь з мінскімі падпольшчыкамі. На руках у маці была даведка, што дачка «хворая на сухоты», афармленая урачом-прафесарам Я. Клумавым. Гэта дазваляла пранікаць у Мінск і іншыя гарады вобласці.

Падзяліўся ўспамінамі і былы партызан атрада «Барацьба» брыгады «Народныя мсціўцы» імя В. Т. Варанянскага Васіль Даўжонак. Пасля заканчэння вайны Васіль Пятровіч служыў у памежных войсках, атрымаў званне кандыдата гістарычных навук. Аўтар кніг пра Айчынную вайну 1812 года, пра партызанскі рух у Беларусі.

Мікалаю Іванову, былому радыётэлеграфісту, было няпоўных 15 гадоў, калі пачалася вайна. У жніўні 1944-га закліканы ў войска, удзельнічаў у баях у Берліне, быў паранены. У першыя пасляваенныя дні адначасова ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам Славы III ступені ды двума медалямі — «За ўзяцце Берліна» і «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.».

Уладзімір Аванесаў, аўтар кнігі «Маршал Г. К. Жукаў на беларускім п'едэстале», распавёў прысутным пра Маршала Перамогі, чатырохразовага Героя Савецкага Саюза, двойчы ўганараванага ордэнам «Перамога», удзельнікачатырохвойнаў,якіаддаўвайсковайслужбеў Беларусі 17 гадоў. Сёння ў Мінску ёсць не толькі помнік Георгію Канстанцінавічу, але і праспект ды сквер яго імя. У гонар палкаводца названа сярэдняя школа № 83 у Маскоўскім раёне сталіцы, дзе месціцца музей Г. К. Жукава.

Члены Ваенна-навуковага таварыства падарылі бібліятэцы свае кнігі з аўтографамі.

**Іван АРХІПАЎ,**
**член савета**
**Ваенна-навуковага таварыства**
**пры Цэнтральным Доме афіцэраў**

*Да ведама*

# Латвійскі пэчворк

**Напярэдадні 8 Сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска адкрылася выстаўка работ майстроў Латвіі «Прыходзіць час размаляваць Латвію…».**

У экспазіцыі прадстаўлена больш як 20 твораў у традыцыйных лапікавых тэхніках і арт-квілты. Пэчворк — адзін з найбольш папулярных кірункаў сучаснага дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва. Зборка палатна з лапікаў, аплікацыя з тканіны, фастрыгаваныя вырабы здаўна існавалі ў шматлікіх народаў свету. Сёння гэтыя від рукадзелля актыўна развіваецца, адкрываюцца новыя тэхнікі і формы. Новыя тэндэнцыі і ў работах майстроў Латвіі.

Выкладчыкі лапікавага шыцця з Рыжскага культурнага цэнтра «Ільгюцыемс» Ая Рацэная і Святлана Сямёнава паяднаалі вучаніц з розных рэгіёнаў сваёй краіны, якія працуюць у традыцыйных лапікавых тэхніках і арт-квілтах. Кожны аўтар па-свойму раскрыў тэму маляўнічай Латвіі. Лапікавыя кампазіцыі перадаюць настрой прыроды: цішыню цёплага дня і прахалоду восеньскага ветру, сум шэрага дажджу і радасць ранішніх промняў сонца.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Ракако, барока…

**Музей гісторыі горада Гомеля пачынае цыкл выставачных праектаў «Прыгажосць і камфорт», прысвечаных сядзібнаму інтэр'еру апошніх двух стагоддзяў.**

У аснове — унікальныя калекцыі, сабраныя аматарам і знаўцам даўніны Сяргеем Пуцілінын.На выстаўцы «Прыярытэт камфорту: крэслы і не толькі», якая адкрылася ў чацвер, прадстаўлена мэбля для адпачынку XIX — пачатку XX стагоддзя. Разнастайнасць стыляў (ракако, барока, класіцызм ды інш.), тэхналогій вырабу і аздаблення мэблі ўразіць наведвальнікаў экспазіцыі.

Можна прасачыць, як са зменай эпох змяняліся жыццё і побыт, як і чаму ўваходзілі ва ўжытак новыя віды і мадэлі, убачыць наборы мяккай мэблі, гарнітуры для гасцёўні і сталовай, канапы і кушэткі, крэслы, гадзіннікі, статуэткі з бронзы і фарфору ды іншыя старадаўнія прадметы дэкору.

**Бажэна СТРОК**

# Back in USSR!



*Іосіф Белановіч «Будаўніцтва моста». 1960.*

**Выстаўка жывапісу майстроў савецкага перыяду «Адлюстраванне мінулай эпохі» адкрылася ў мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт». Экспазіцыю складаюць працы такіх вядомых творцаў, як Беньямін Басаў, Іосіф Белановіч, Генрых Бржазоўскі, Віктар Варламаў, Яўген Красоўскі, Мікалай Куйчык, Віталь Цвірко, Алена Шастоўская.**

Прадстаўленыя палотны ўнікальныя. Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў сярод галерыстаў заходняга свету паўстала сур'ёзная цікавасць да жывапісу савецкай эпохі. Немагчыма падлічыць, колькі выдатных работ было вывезена за мяжу!

Выяўленчае мастацтва заўсёды адлюстроўвае не толькі падзеі, але і настроі, думкі і пошукі пэўнага часу. Не выключэнне і жывапіс, прадстаўлены на выстаўцы. На карцінах — сапраўднае жыццё ў разнастайных яго праявах. Тут знойдзецца і проза дня, і творчыя пошукі... Усё гэта фарміруе адметны настрой і ўспрыманне мастацкіх твораў, народжаных у эпоху СССР.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Абліччы вясны

**Выстаўка жывапісу маладой мастачкі Наталлі Табушавай «Сярэбраны сакавік» адкрылася ў сталічным Доме дружбы.**

Працуе Наталля пераважна ў жанры партрэта («Чырвоны студзень. Аўтапартрэт», «Святлана», «Вераніка»). Сярод такіх твораў ёсць і выявы сямейнікаў: маці («Партрэт архітэктара Л. Луцэвіч»), бабулі («Мая бабуля»). Піша мастачка таксама нацюрморты, пейзажы, сюжэтныя кампазіцыі. Натхняюць яе і раслінна-кветкавыя вобразы («Бэз. У майстэрні», «Клубніцы і шыпшына», «Хрызантэмы» і г. д.).

Сама Наталля падчас вернісажу прызналася, што экспазіцыю прысвяціла тром самым галоўным жанчынам у яе жыцці — маці, Людміле Пятроўне, і дзвюм бабулям — Наталлі ды Марыі, таму што першая дала ёй жыццё, другая — імя, а трэцяя надзяліла філасофскім светапоглядам.

**Даведка «ЛіМа»**

Наталля Табушава нарадзілася ў Мінску. Скончыла мастацкі факультэт і магістратуру Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. На яе рахунку — 6 персанальных выставак у Мінску, Полацку, Заслаўі, у тым ліку фотавыстаўка «Гарады» (2009). Лаўрэат міжнародных конкурсаў. Пастаянная ўдзельніца гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных выставак і пленэраў. У 2010 г. адзначана прэміяй Мінгарвыканкама, у 2011-м — падзякай міністра культуры Рэспублікі Беларусь. Аўтар і кіраўнік пленэру «Дух гісторыі» (2011). Яе работы знаходзяцца ў фондзе Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Польшчы, Германіі ды ЗША.



*Наталля Табушава «Калы». 2005.*

Яўген Шунейка, кандыдат мастацтвазнаўства, выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, заўважыў у работах Н. Табушавай моцную гаму пачуццяў. Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай Акадэміі музыкі Міхаіл Солапаў падкрэсліў: уся творчасць Наталлі праменіцца шчырай радасцю жыцця.

Падчас адкрыцця выстаўкі словы бралі таксама маці мастачкі, архітэктар Людміла Луцэвіч і стрыечны брат Н. Табушавай, паэт Андрэй Скарынкін, які прачытаў уласныя вершы, прысвечаныя вясне.

**Яна ЯВІЧ**



*Валерый Песін «Падарожжа». 2014.*

# Лірычны настрой

**Цэнтр сучасных мастацтваў Беларусі прапануе беларускаму гледачу пазнаёміцца з творчасцю жывапісца і графіка Валерыя Песіна на выстаўцы «Дэталі».**

Дэталі — не пейзаж, не нацюрморт і не сюжэт. Гэта творы, у якіх адбіваюцца элементы прыроднага свету, што аўтар напаўняе дадатковым лірычным зместам. Пры гэтым вырашальнае значэнне маюць эстэтычныя, дэкаратыўныя ўласцівасці, мэта якіх — пры дапамозе спалучэння фармальных якасцей — колеру, фактур, тэхнік, а таксама супрацьпастаўлення карцін і іх узаемадзеяння стварасць настрой, эмацыянальную вібрацыю.

У сённяшняй экспазіцыі прадстаўлена каля 40 твораў жывапісу і графікі Валерыя Песіна. Работам мастака ўласціваяпэўная недагаворка, якая пакідае гледачу магчымасць дапоўніць аўтарскае пасланне, прыдумаць уласную гісторыю.

**Таццяна ШЫМУК**

# Калі прыходзіць натхненне…



Сакавік шчодры на імпрэзы, прысвечаныя жанчыне і каханню. З ліку такіх мерапрыемстваў і канцэрт Таццяны Атрошанка «У вачах тваіх мора» ў сталічным Палацы прафсаюзаў. З паэтэсай, кампазітарам, выканаўцай, кіраўніком аб'яднання «Агмень» мы пагутарылі пра падзею, натхненне і таямніцы творчасці.

**— Таццяна, што стала нагодай для канцэрта?**

— Каханне. Самае галоўнае пачуццё ў жыцці кожнага чалавека. Дзеля яго ствараюцца шэдэўры і выпраўляюцца на край свету, яно гоіць раны і дарue крыўды. Гэта той рухавік, які, дзякуй богу, ёсць на Зямлі.

**— Хто дапамагае вам на сцэне?**

— Кавер-група «Over play» — маладыя хлопцы, прафесіянальныя музыкі. Гітара-сола, бас-гітара, барабаны, клавішныя. «Генеральная рэпетыцыя» мінскага канцэрта адбылася ў Маладзечне: творчая вечарына пад назвай «Внутри огромного города», дзе ўзялі ўдзел кампазітар Алена Атрашкевіч, Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята», саліст Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі Аляксандр Салаўёў, заслужаная артыстка Беларусі Ірына Дарафеева.

Апрача дарослага рэпертуару, быў і дзіцячы блок. Дапамагала ў гэтым пытанні дачушка Даша. Бралі ўдзел ў вечарыне маленькія выканаўцы студыі «Спяваем разам» г. Маладзечна (кіраўнік Алена Атрашкевіч), удзельнікі дзіцячага цэнтра Уладзіміра Мулявіна і інш. Не прамінулі падзею і калегі па пяры — Таіса Трафімава, Мікола Шабовіч, Дзмітрый Пятровіч, Кастусь Цыбульскі.

**— Вы адразу выйшлі са сваімі творамі на сцэну?**

— Ад першых спроб да дэбютнага канцэрта прайшло сем гадоў. Я вагалася: ці варта пісаць песні? Але музыка не давала жыць спакойна!

**— Што для вас стартавы механізм натхнення: музыка, літаратура, чысты аркуш?**

— Натхненне ад мяне не залежыць і прыходзіць, бывае, у зусім нязручны час. Напрыклад, калі я запарваю гарбату. Нібыта хтосьці пагрукаў і загадаў: «Запісвай, бо інакш праляціць міма». Тады я бягу да фано, зачыняюся, і…

**Наталля ХМЕЛЬ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
lim_new@mail.ru
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар —284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

Адрас у інтэрнэце: www.lim.by
Нашы індэксы:
індывідуальны — 63856
ведамасны — 638562
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі — 63880
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 63815

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»
02330/99 ад 30.04.2004 (падоўжана 14.04.2014 г. тэрмінам на пяць гадоў па 30.04.2019.)
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2263
Заказ — 1462 г.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.03.2015 у 11.00
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ад 22.07.2009 № 7 (перарэгістравана 10.12.2012) выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686